PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

**ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ**

№ 8 (2180) Год XLIII Беласток 22 лютага 1998 г. Цана 1 зл.

## Мітрапаліт Васілій (1914-1998)



11 лютага 1998 года ў Варшаве памёр мітрапаліт Варшаўскі і ўсяе Польшчы Васілій (у міры Уладзімір Дарашкевіч). Нарадзіўся Ён 15 сакавіка 1914 года ў вёсцы Цісы. Вучыўся ў Віленскай праваслаўнай духоўнай семінарыі і на Тэалагічным аддзяленні Варшаўскага універсітэта. Рукапаложаны ў дыяканы ў 1937, а ў свяшчэннікі — у 1938 годзе. Служыў настаяцелем у Міхалове і Гарадку, выконваў абавязкі благачыннага Гарадоцкай акругі. У Гарадку ініцыяваў пабудову новага храма. Манаскі пострыг прыняў у 1959 годзе, а ў наступным быў хіратанізаваны ў сан епіскапа Бельскага Варшаўска-Бельскай епархіі. У 1961-1970 гадах узначальваў Вроцлаўска-Шчэцінскую епархію. У 1970 годзе Сабор Епіскапаў выбраў Яго першаіерархам Польскай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы. Пахаваны на варшаўскім могільніку на Волі.

## Афіцыйная пазіцыя

— Няма сумнення, што сённяшняя сітуацыя ў Беларусі складаная, але не да той ступені, каб каму-небудзь умешвацца ў яе ўнутраныя справы, — сказаў 11 лютага г.г. Мікалай Крэчка, генеральны консул Рэспублікі Беларусь, на прэс-канферэнцыі прысвечанай сітуацыі на польска-беларускай мяжы і дзейнасці Цэнтра грамадзянскай адукацыі „Польшча — Беларусь" у Беластоку.

— Сваю думку на гэты конт, — працягваў консул, — я выказваў не толькі ў час нарады Цэнтра, але і ў яе закуліссі, між іншым у размове з міністрам Маркам Навакоўскім. На канферэнцыі гучалі такія думкі, адносіцца да якіх дыпламат не мусіць. Гаварылася, што Польшча не можа ўвесці візаў для краіны, якая мае межы ад Брэста да Ула-

[працяг ☞ 5]

## У нумары



## Юбілей арлянскіх пажарнікаў

Міхал Мінцэвіч

**Добраахвотная пажарная каманда ў Орлі адсвяткавала слаўны юбілей — 75-годдзе з дня заснавання. 29 студзеня г.г. у памяшканні Гміннай управы арлянскія пажарнікі атрымалі медалі і ключыкі да новай пажарнай машыны.**

На ўрачыстасць з'ехаліся ў Орлю шматлікія госці. Юбілейныя святкаванні ўдастоілі сваёй прысутнасцю паслы Беластоцкай зямлі Ян Сычэўскі і Сяргей Плева, кіраўнікі ваяводскіх і раённых пажарных структур, праваслаўнае духавенства і прадстаўнікі сродкаў масавай інфармацыі.

Пасля афіцыйнага адкрыцця ўрачыстасці гмінны камендант Добраахвотных пажарных каманд Міраслаў Бала расказаў гісторыю арлянскай пажарнай каманды, пачынаючы з 1922 года, і з гордасцю прывітаў найстарэйшага пажарніка, 87-гадовага Аляксандра Карнеева, які стаў членам каманды і задно музыкантам пажарнага духавога аркестра ў 1930 годзе.

Затым адбылося ўручэнне Добраахвотнай пажарнай камандзе залатога медаля „За заслугі для пажарнай справы". Адзнаку на рукі начальніка каманды Мікалая Тхарэўскага перадаў дырэктар Ваяводскай управы Добраахвотных пажарных каманд Рамуальд Вішнеўскі. Былі таксама і індывідуальныя ўзнагароды найбольш заслужаным пажарнікам. Залаты знак атрымалі Аляксандр Карнееў, Мікалай Цэтра і Уладзімір Паплаўскі; сярэбраны — Юрый Аксянтовіч, Міхал Карнееў, Мікалай Тхарэўскі і Славамір Сахарэвіч; бронзавы — Сцяпан Кубаеўскі, Андрэй Ахрыцэвіч, Міраслаў Бала і Андрэй Кубаеўскі. Адзнакай „Узорны пажарнік" узнагароджаны былі Мікалай Федаровіч, Юрый Кубаеўскі і Ігар Тхарэўскі. Гэтая частка ўрачыстасці завяршылася перадачай пажарнікам маднарнага аўтамабіля. Ключыкі і даку-

[працяг ☞ 3]




*Арлянскія пажарнікі і іх госці. Першыя справа: паслы Ян Сычэўскі і Сяргей Плева, гмінны камендант Міраслаў Бала, начальнік Мікалай Тхарэўскі. Першы злева: войт Міхал Іванчук.*

# Мы прачыталі

*Znakiem firmowym nowej koalicji rządzącej miały być reformy, a stała się partyjność. Obecna koalicja dochodziła do władzy pod hasłem odpartyjnienia państwa, a dziś realizuje model państwa całkowicie partyjnego. Ten styl narzuciła AWS. Do Mariana Krzaklewskiego zapisują się tłumy petentów po posady. Bywają dni, że aby zmieścić się w pierwszej czterdziestce, trzeba się zapisać w gabinecie wczesnym rankiem. Takie same oblężenie przeżywają lokalni szefowie AWS. Zajmowanie posad wojewódzkich przekroczyło już granice dobrego smaku i politycznej przyzwoitości. Normą stała się negatywna selekcja kandydatów na wojewodów. Wojewodowie, chociaż powinni być mianowani przez premiera, w rzeczywistości wybierani są przez rozgorączkowanych lokalnych działaczy „Solidarności". Podział łupów dobiega jednak końca, a żadnych nowych merytorycznych rozwiązań nie widać.*

*Polityka, nr 5*

Здзейснілася прароцтва Яраслава Качынскага: „teraz, k...wa, my". І ўсё.

* * *

*Z wnioskiem o zmniejszenie dotacji na remont klasztoru w Supraślu wystąpił wicewojewoda Grzegorz Rykowski z PSL, później działacze AWS. Poseł ZChN Marian Blecharczyk powiedział, że Białostockie to nie tylko Białowieża, Kleszczele czy Supraśl, to także Łapy, Mońki, Brańsk.*

*Kurier Poranny, nr 24*

Аб'явіўся яшчэ адзін Манек, спецыяліст па геаграфіі.

* * *

*Pewne ożywienie na rynku prasy erotycznej wywołała głośna akcja 35-letniego przedsiębiorcy z Białegostoku, ojca siedmiorga dzieci, który zainicjował bojkot kiosków eksponujących grzeszną nagość. Na czarną listę trafiło 6 tytułów i ich sprzedaż natychmiast wzrosła o 15 procent. Dopóki antypornograficzne komitety upominały, hałasowały, słały protesty do gazet, ludzie chcieli zobaczyć o co ta awantura. Spróbowali i wrócili do lektury o gotowaniu, wędkowaniu i wypranej w Polsce z seksu polityki.*

*Pani, nr 2*

* * *

*Ludzie wychowani w ustroju komunistycznym, którzy nigdy nie byli w krajach demokratycznych, a tylko w ZSRR, widzieli, że na Białorusi żyło się lepiej niż w pozostałych republikach. Mieliśmy wówczas największą wydajność pracy. Dochód narodowy przekraczał 5 tys. dolarów na osobę, czyli był wyższy niż wynosi obecnie w Polsce. Kiedy po rozpadzie ZSRR poziom życia gwałtownie się pogorszył, winą obciążono demokrację i demokratów. Łukaszenko wykorzystał tę sytuację,* — сказаў Станіслаў Шушкевіч.

*Kurier Poranny, nr 28*

* * *

*W ubiegłym roku urodziło się najmniej dzieci w powojennych dziejach Polski. Czym to grozi? Po otwarciu granic z Zachodem zaludniać zaczną ziemie, zupełnie legalnie, nasi sąsiedzi, głównie Niemcy, a nielegalnie Rosjanie, Ukraińcy, Białorusini. Jak najrychlej trzeba rozwinąć politykę prorodzinną. Zespolić działania rządu i Kościoła, by zapobiec katastrofie,* — сказаў пасол Рышард Бэндэр.

*Głos, nr 3*

* * *

*Podczas wizyty papieża na Kubie tłum skandował: Janie Pawle, jesteś Kubańczykiem.*

*Życie, nr 21*

* * *

*Z okazji 1997 urodzin Pańskiego Szefa...*, — піша Урбан дырэктару радыё „Марыя" айцу Рыдзыку.

*Nie, nr 4*

Зместу пажаданняў не друкуем з увагі на тое, што „Ніву" часам чытаюць дзеці і моладзь.

* * *

*Na Ukrainie ludzie mają radziecką mentalność. Nie rozumieją co to własność. Nie są gospodarzami. Dominuje sposób myślenia lumpów. Tak jak na większości byłego terytorium ZSRR nie ma klasy właścicieli ani pracowników. Z powodu złodziejstwa i pijaństwa nie sposób znaleźć ludzi do pracy nawet za wysokie wynagrodzenie.*

*Rzeczpospolita, nr 18*

* * *

*Rosyjscy producenci wódek z rozrzewnieniem wspominają czasy gorbaczowskiego „suchego zakonu". Wódka była wtedy towarem deficytowym, a kilkusetosobowe kolejki szturmowały nieliczne sklepy. Dziś handlować wódką może każdy, można ją kupić w każdym drewnianym kiosku. Dla alkoholików ideał sięgnął bruku.*

*Nowe Kontrasty, nr 12*

* * *

*Ostatnio wyszło na jaw, że po dwóch miesiącach sprawowania władzy urzędnicy państwowi przyznawali sobie kilkutysięczne premie. Bywa to tak, że przychodzi księgowy z ostatniego rozdania i mówi, że w styczniu władza zawsze dostawała premie, dlatego też i ta nowo powołana może sobie wziąć. A dlaczego by nie!*

*Gazeta Polska, nr 3*

* * *

*Białoruś wymiera — alarmują opozycyjne gazety. W ub. roku liczba ludności kraju zmniejszyła się o 33 tysiące.*

*Kurier Podlaski, nr 18*

* * *

*W białostockim Państwowym Szpitalu Klinicznym gabinety prywatne wciąż kwitną. Lekarze w godzinach pracy przyjmują pacjentów prywatnie.*

*Gazeta Współczesna, nr 18*

Наколькі знаем практыку нашай штодзённасці, квітанцыі таксама ніякай не выпісваюць, а ганарары прымаюць у канвертах і сумках.

# З мінулага тыдня

**Сеймавая** камісія замежных спраў абмяркоўвала адносіны Польшчы з Літвой, Беларуссю і Украінай. Шэф польскай дыпламатыі **Браніслаў Герэмэк** падкрэсліў, што Захад спадзяецца, што Польшча пакажа Еўропе як трэба весці палітыку ў адносінах да краін Усходняй Еўропы. Паводле міністра, самыя вялікія праблемы стварае Беларусь. Аўтарытарная ўлада ў гэтай краіне, тармажэнне гаспадарчых рэформ, антыеўрапейская і антынатаўская рыторыка выклікаюць ізаляцыю Беларусі. „Мы павінны быць поўнасцю свядомы таго, што хаця гэтая ізаляцыя з'яўляецца вынікам палітыкі самога Менска, аднак захаваннем гэтага стану Польшча і рэшта Еўропы не зацікаўлены", — сказаў міністр. На яго думку, калі толькі з'явяцца магчымасці пераламаць ізаляванасць, трэба імі пакарыстацца.

**Пшэмыслаў Грудзінскі** — віцэ-міністр замежных спраў, які курыруе „ўсходні напрамак" польскай дыпламатыі, яе задачы ў адносінах да Беларусі акрэсліў наступным чынам: „Беларусь — самы вялікі выклік. Польшча не мае магчымасці ўплываць на паскарэнне дэмакратызацыі. Нельга ўмешвацца нам ва ўнутраныя справы Беларусі, але ёсць у нас грамадскія і палітычныя кантакты, каб падтрымоўваць гэтыя працэсы. Аднак мы не зацікаўлены, каб адносіны з Беларуссю сталі выключна справай Польшчы, паколькі гэта агульнаеўрапейская праблема".

**Афіцыйны Менск** вострa адрэагаваў на стварэнне ў Беластоку Цэнтра грамадзянскай адукацыі „Польшча — Беларусь". Міністр замежных спраў Беларусі **Іван Антановіч** арганізаванне на тэрыторыі Польшчы семінараў для беларускай апазіцыі, у ходзе якіх „абмяркоўвающа акцыі звяржэння легальнай прэзідэнцкай улады", палічыў варожым актам і ўмяшаннем ва ўнутраныя справы Беларусі. На думку кіраўніка Цэнтра **Артура Смулкі**, абвінавачванні беларускіх улад могуць прадвяшчаць падрыхтоўку да рэпрэсіравання антылукашэнкаўскай апазіцыі.

**На ўсходняй мяжы** зніклі перагружаныя легкавікі і з'явіліся чэргі аўтафураў. У студзені пасажырскі рух на КПП у Кузніцы-Беластоцкай і Чаромсе ўпаў на 30% у параўнанні са студзенем мінулага года, затое на 74% павялічыўся тавараабарот, — вынікае з даных, прадстаўленых беластоцкім ваяводам **Крыстынай Лукашук** на пасяджэнні Сеймавай гаспадарчай камісіі, якая разглядала эканамічную сітуацыю ў гандлюючых з Усходам ваяводствах пасля ўвядзення новага закона аб іншаземцах. На яе думку, абмежаванне чаўночнага гандлю было выклікана не столькі польскімі нававядзеннямі, колькі ўступіўшым у сілу ў апошнім квартале мінулага года рэстрыкцыйным беларускім мытным законам. Па гэтай прычыне чаўнакам не аплачваецца вазіць тавар у рэчмяшках, а большасць тавараў перапраўляецца на грузавым транспарце і таму менавіта павялічыўся тавараабарот, — лічыць спадарыня ваявода. **Зыгмунт Якімовіч** — старшыня Саюза аховы купцоў і работадаўцаў, які таксама ўдзельнічаў у пасяджэнні Сеймавай гаспадарчай камісіі, аспрэчыў даныя беластоцкага ваяводы. Паводле купцоў, прыгранічны экспарт упаў ажно на 80%, а тысячам базарных гандляроў пагражае беспрацоўе. Пад пагрозай банкруцтва апынуліся многія гандлёвыя, вытворчыя і паслуговыя фірмы. У такой сітуацыі 9 лютага г.г. купцы правялі пратэстацыйную акцыю — заблакіравалі пагранпераход у Кузніцы-Беластоцкай і патрабавалі змякчыць закон аб перасячэнні мяжы грамадзянамі Беларусі і Расеі. Пасля заявы беластоцкага ваяводы, што ўрад абмяркуе пастулаты купцоў, блакада мяжы была знята на другі дзень раніцай.



# Весткі з Беларусі

**Рэзкае пытанне**

Польскае пытанне набыло больш рэзкія абрысы ў словах прадстаўнікоў афіцыйнай улады. На брыфінгу ў Міністэрстве замежных спраў кіраўнік гэтага ведамства Іван Антановіч даў зразумець, што справа не абмяжоўваецца толькі становішчам з мяжой, але датычыцца і двухбаковых адносін у цэлым. Днямі Расея рэзка заявіла, што прыгранічную праблему з Польшчай яна будзе вырашаць прэвентыўнымі мерамі. Міністр Іван Антановіч падкрэсліў, што Беларусь можа паступіць гэтак жа, калі перамовы з польскімі прадстаўнікамі не дадуць станоўчага выніку. У дадзеным выпадку гутарка ідзе аб візіце міністра замежных спраў Польшчы і адначасова старшынствуючага ў гэтым годзе АБСЕ Браніслава Герэмка. Па словах Івана Антановіча, калі польскі бок адмовіцца ад абмеркавання пытання аб двухбаковых адносінах, то мэтазгоднасці ў гэтым візіце няма. Стала таксама вядома, што пасол Беларусі Віктар Бурскі адазваны з Польшчы для кансультацыі.

**Суседская сустрэча**

Сітуацыі, звязанай з увядзеннем у студзені новага польскага закона аб іншаземцах, асаблівую ўвагу ўдзялілі брэсцкі губернатар Уладзімір Заламай і новы бела-падляшскі ваявода Марэк Чарнецкі на сустрэчы, якая адбылася ў Брэсце. Паводле губернатара, увядзенне новага польскага закону негатыўна адбіваецца сёння на развіцці добрасуседскіх сувязяў. Цяпер гэтай праблемай ушчыльную заняты міністэрствы замежных спраў дзвюх краін і ёсць надзея, што ў бліжэйшы час сітуацыя праясніцца. Падчас перамоваў былі абмеркаваны таксама пытанні ўдзелу бакоў у еўрарэгіёне „Буг", узаемадзеяння пры транзіце грузаў і развіцці свабодных эканамічных зон.

**Пагранічныя размовы**

Абмеркаванню стану і перспектыў развіцця беларуска-польскіх адносін па пагранічных пытаннях была прысвечана рабочая сустрэча старшыні Дзяржаўнага камітэта пагранічных войск Беларусі Аляксандра Паўлоўскага з галоўным камендантам Пагранічнай варты Польшчы Маркам Бяньkoўскім у Гродне. Кіраўнікі пагранічных ведамстваў абмяняліся інфармацыяй аб ступені гатоўнасці да падпісання дагавора паміж краінамі аб рэжыме беларуска-польскай мяжы, супрацоўніцтве, узаемадапамозе па пагранічных пытаннях. Акрамя таго Аляксандр Паўлоўскі і Марэк Бяньkoўскі абмеркавалі перспектывы падпісання пагаднення паміж урадамі Беларусі і Польшчы аб узаемных бязвізавых паездках грамадзян дзвюх дзяржаў.

**БНФаўскі пікет**

У нядзелю 8 лютага ў Менску дзвесце чалавек удзельнічала ў пікеце ў знак пратэсту супраць зняволення маладых дзеячаў апазіцыі. Пікетчыкі трымалі лозунгі „Свабода палітвязням" і „Спыніць палітычныя рэпрэсіі".

**Памілаванне прадпрымальнікаў**

Усе дзеянні дзяржаўных органаў, якія датычацца прадастаўлення грамадзянамі Беларусі дэкларацыі аб сукупным гадавым даходзе і спагнання адпаведных падаткаў прыпынены, — заявіў прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка ў час наведвання акадэмічнага навукова-тэхнічнага комплексу „Сосны". Паводле кіраўніка дзяржавы, калі прэтэнзіі тых, каго павінна была закрануць новая сістэма падаткаабкладання акажуцца справядлівымі і абгрунтаванымі, будуць прыняты пэўныя крокі.

**Апостал свабоды**

160-годдзе Кастуся Каліноўскага — лідэра беларускага нацыянальнага вызваленчага руху шырока адзначаецца ў Нацыянальнай бібліятэцы Рэспублікі Беларусь. Вучоныя і студэнты абмяркоўвалі навуковыя рэфераты па тэме „Дакументальная спадчына Кастуся Каліноўскага". З нагоды гэтай даты ў бібліятэцы адкрылася кніжная выстава „Апостал свабоды і незалежнасці", на якой экспануюцца біяграфічныя сведчанні пра Кастуся Каліноўскага ў энцыклапедычных выданнях, газета „Мужыцкая праўда", артыкулы ў часопісах. У раздзеле пад назвай „Прысвячэнні Кастусю Каліноўскаму" прадстаўлены мастацкія творы вядомых паэтаў і празаікаў.

# Боль сэрца ў Бельску

Мой улюбёны радны Гарадской рады Бельска-Падляшскага — Міраслаў Талвінскі. Яго выступленні ажыўляюць нават самыя нудныя дыскусіі на эканамічныя тэмы, падчас якіх спрэчкі вядуцца за пяцьдзесят метраў сцёкавага канала, тры слупы з асвятленнем на вуліцы N. ці павышэнне чыншу ў фабрычным цэху на два грошы за квадратны метр.

— Пан, пане Талвінскі, жыць не можа, як не ляпне чагосьці на патрыятычную ноту, — сказаў бурмістр Андрэй Сцепанюк у прысутнасці ўсяе Рады і запрошаных на яе пасяджэнне гасцей. Было гэта 9 лютага; на сесіі вырашаўся лёс бюджэту горада на гэты год. Радны Талвінскі прысвяціў слова гарадской асвеце:

— У нашым горадзе школы і дзіцячыя садкі дзеляцца на лепшыя і горшыя. Некаторым школам прыкра на такое глядзець. Адны агароджаныя прыгожым парканам, маюць гімнастычныя залы на еўрапейскім узроўні, а ў іншых няма нічога.

Сучасная гімнастычная зала і новы плот, гэта ў Бельску аж надта выразны намёк на Пачатковую школу н-р 3. Але, каб прысутныя не палічылі гэтага выступлення адно асабістай атакай на старшыню Рады і адначасова дырэктара „тройкі" Васіля Ляшчынскага, пан Талвінскі асадзіў яго ў шырэйшым кантэксце:

— У Гродне палякі самі мусяць будаваць сабе школы, за грошы *Wspólnoty Polskiej*.

Эмацыянальная рэакцыя бурмістра была якраз на гэтыя словы:

— Пане Талвінскі, я быў у кожнай гарадской школе і то неаднойчы. Тым не менш, я не ведаю тут ніводнай няпольскай школы. Усе школы ў нашым горадзе польскія!

Міраслаў Талвінскі, быццам не чуючы, кончыў сваю заўвагу:

— Ад такіх парадкаў у Бельску, некаторым сэрца баліць.

**Мікола Ваўранюк**

# Юбілей арлянскіх пажарнікаў

[1 ☞ працяг]

менты гміннаму камеданту Міраславу Балу ўручыў войт гміны Міхал Іванчук. Затым прадстаўнік Ваяводскай пажарнай камендатуры Уладзімір Лаўнічук зачытаў віншавальны ліст ваяводскага каменданта Кшыштофа Вайтэцкага.

Былі таксама віншаванні і сувеніры ад іншых гасцей. Дырэктар Рамуальд Вішнеўскі ўзнагародзіў войта гміны Міхала Іванчука памятным календаром і сімвалічнай пластмасавай каскай. Дырэктар сказаў яшчэ, што спецыялізаваная машына „Камаз", вартасцю ў 1 млрд. зл., павінна служыць арлянскім пажарнікам 10-15 гадоў. Падзякаваў ён таксама мас-медыям за папулярызацыю дзейнасці пажарнікаў і заявіў, што 70% пажараў тушаць менавіта добраахвотнікі. Арлянскіх пажарнікаў і іхныя сем'і павіншаваў таксама раённы камендант Ян Барташук, а бельскі благачынны а. Георгій Такарэўскі падараваў ікону з надзеяй, што будзе яна спадарожнічаць пажарнікам, калі будуць выязджаць на акцыю і вяртацца з яе.

Ад свайго імя і ад імя Владзімежа Цімашэвіча віншаваў пажарнікаў пасол Ян Сычэўскі, які заявіў, што парламентарыі будуць адводзіць належную ўвагу, каб кандыцыя пажарнай аховы была згодна з грамадскім запатрабаваннем. Наканец прамовіў ён па-беларуску: „Як старшыня БГКТ ведаю, што ў Орлі і вакол яе пражывае многа беларусаў. Хачу вам пажадаць усяго найлепшага, многа здароўя. Пажарнікам не выпадала б не пажадаць агню, але толькі ў печах і толькі на вогнішчах, якія планава раскладаем. Калі ўжо, не дай Бог, здарэцца, што агонь бывае непрадбачаны, жадаю, каб быў ён як мага халодны і як мага кароткі, і каб гэты агонь былі вы ў стане заўсёды гасіць як найхутчэй для дабра людзей, для дабра другіх асоб".

Віншавальную частку ўрачыстасці закончыў войт Міхал Іванчук, які расказаў пра агульную супрацьпажарную сітуацыю ў гміне. Затым усе выйшлі перад сядзібу Гміннай управы, а святары ўрачыста пасвяцілі пажарную машыну і новае абсталяванне. На фоне машыны ўдзельнікі святкавання зрабілі сабе памятны здымак. Потым пажарнікі і іх госці пайшлі ў Гміннны асяродак культуры на ўрачысты абед. Гэты юбілейны дзень доўга будуць памятаць і самі пажарнікі, і жыхары. Новае абсталяванне і ахвярнасць пажарнікаў — зарука больш бяспечных умоў жыцця і працы ў паасобных вёсках Арлянскай гміны.

**Міхал Мінцэвіч**

*Фота аўтара*

# Горад — шанц на развіццё

**Размова з Аляксандрам СЯЛІЦКІМ — бурмістрам Кляшчэляў.**



***— Ужо мінула чатыры гады, як Кляшчэлі сталі горадам. Ці можна гаварыць пра нейкі інвестыцыйны зрух?***

— Ад часу, калі 2 кастрычніка 1993 года з рук прэм'ер-міністра Ганны Сухоцкай атрымалі мы гарадскія правы, многа змянілася. У верасні 1996 года закончылася пабудова школьнага будынка, які каштаваў 24 мільярды старых злотых. Зараз ідзе яшчэ пабудова гімнастычнай залы, якая будзе каштаваць 16 мільярдаў. Трэба сказаць, што 1996 год быў добры для інвестыцый, бо ў кастрычніку аддалі мы таксама ў карыстанне ачышчальню сцёкаў, якая каштавала 10 мільярдаў. Адразу падключылі да яе школу, а пасля індывідуальных гаспадароў, якія жывуць па вуліцы Свярчэўскага і Касцюшкі. Даход з падаткаў за 1997 год — гэта 12 мільярдаў злотых. Зразумела, усе лічбы ў старых грошах, бо гэта лепш успрымаецца. Большую частку бюджэту саставілі розныя датацыі — 28 мільярдаў злотых. Думаю, што калі б Кляшчэлі не былі горадам, такіх датацыяў не было б. Зразумела, кожны год будуем яшчэ асфальтаваныя дарогі і кладзем водаправоды.

***— Ва ўмовах рыначнай гаспадаркі многія жыхары нашых вёсак і гарадоў сталі беспрацоўнымі. Якая кандыцыя кляшчэлеўскіх прадпрыемстваў?***

— У нас закрылі „пэгээр" (саўгас), каапературў „Сялянская ўзаемадапамога". Зараз на месцы старых паяўляюцца новыя суполкі. Працу для 100 асоб дало прадпрыемства „Дрэўэкспорт", якое выпускае розныя драўляныя вырабы. Многа тавару ідзе ў Польшчу і на экспарт. Сям'я Папісаў зараз адкрывае суполку, якая будзе рабіць драўляныя пліты і высылаць іх на ўсходні рынак. Зямлёй занялося сельскагаспадарчае прадпрыемства спадара Блоцкага з Сямятычаў. Прадпрыемства „Баума" з Варшавы пачало капаць гравій у Дабрываdзе. Хаця новыя суполкі далі дадатковыя месцы працы, цяпер 200 асоб гэта беспрацоўныя, з чаго палову саставляюць жанчыны. Менавіта жанчынам цяжэй знайсці працу ў нашым рэгіёне. Але я аптыміст і веру, што ўзнікнуць новыя месцы працы, хаця б у галіне паслуг.

***— Ідуць хуткімі тэмпамі працы над адміністрацыйнай рэформай краіны і рыхтуецца падзел на паветы. Як кляшчэлеўскія ўлады ставяцца да гэтых зменаў?***

— Да рэформы мы адносімся станоўча, а паветы лічым патрэбнымі. Аднак дыскусія ў горадзе і ў вёсках ідзе аб тым, куды ўваходзіць? Жыхары Кляшчэляў і большасць вёсак лічаць, што лепшым будзе Гайнаўскі павет. Людзі прывыклі ўжо да гайнаўскіх лекараў і раённай управы. За Бельск-Падляшскі змагаюцца жыхары Сухавольцаў, Залешанаў, Сакоў, Тапаркоў. Больш зручны ім транспарт у Бельск.

***— У горадзе жыве многа беларусаў. Ці дом культуры, школа і гарадскія ўлады ў сваёй працы звяртаюць увагу на беларускую культуру і мову?***

— Жыхары Кляшчэляў ужо амаль увогуле не карыстаюцца дыялектнай мовай. Па вёсках гутарковая мова яшчэ захавалася. У Падставовай школе вучыцца беларускай мове больш чым сорак дзетак, а школьны калектыў „Skrzaty leśne" спявае і па-беларуску. Калектывы з Сакоў, Дабрывады і Дашоў спяваюць беларускія песні і ездзяць на розныя агляды. Зрух моладзі пачаўся нядаўна і мы думаем стварыць беларускі маладзёжны калектыў. Апошні раённы агляд паказаў, што кляшчэлеўская публіка любіць беларускую песню.

***— З чым спалучаеце сваю надзею на развіццё горада і гміны Кляшчэлі?***

— Хочам звярнуць увагу на турызм. Кляшчэлі знаходзяцца на шляху да пагранічнага перахода Полаўцы і трэба гэта выкарыстаць. Для людзей, якія пераязджаюць цераз наш горад патрэбны і харчаванне, і адпачынак, і начлег. Ужо зроблены планы і прадбачваем пабудову вадасховішча на рэчцы Нурэц у вёсцы Рэпчыцы. Думаем, што будзе ён стымулам для развіцця нашага рэгіёна.

***— Дзякую за размову.***

**Гутарыў Аляксей Мароз**

*Фота аўтара*

# Гміна — гэта я

**Яўген Вапа**

Французскаму каралю-Сонцу Людовіку XIV прыпісваюць часта словы-сімвал абсалютнай улады: „Дзяржава — гэта я". Усё становіцца ясна і зразумела тым, якім хацелася б уплываць на ўладу. Іх месца ў грамадстве — гэта аплачванне падаткаў у дзяржаўныя і каралеўскія фонды (найчасцей на патрэбы манаршых каханак). Аднак такая палітыка аказалася памылковай. Французы праз некалькі дзесяткаў гадоў збунтаваліся супроць свайго караля, што ўжо Людовіку XVI абышлося гэта адсячэннем галавы. Такія моманты заўсёды выклікаюць у грамадстве зацікаўленне і лагодзяць людскія эмоцыі. Увесь Парыж і ваколіца хацелі пабачыць, як на парыжскім бруку памірае іхні ўладальнік.

На нашым беластоцкім панадворку ў мінулым годзе параўнальны стан эмоцыяў і захаплення грамадства выклікаў хіба толькі візіт прэзідэнта Аляксандра Кваснеўскага ў царкве ў Чыжах і на фэсце ў Ласінцы. Для мяне асабіста такой эмацыянальнай бомбай, як фанату футбольнай каманды чацвёртай лігі „Тур" Бельск-Падляшскі, быў бы прыезд у горад на сяброўскі спарынг „Рэала" Мадрыд. Ну, магло б і быць кіеўскае „Дынама", якое цяпер робіць фурор у еўрапейскіх спаборніцтвах. Пры нагодзе: цікава, каго ў час такой сустрэчы ўзнагароджвалі б воплескамі бельскія ўкраінцы? Маю надзею, што бельскі самаўрад возьме мае патрэбы да сэрца, а спартыўнае лобі ва ўправе горада зможа правесці ў 1998 годзе такое відовішча, якога бяльшчане не бачылі хіба ад пажару бельскага замка ў XVI ст.

Генеральна ігры і відовішчы — гэта неад'емная частка нашага лёсу, а рост іх значэння заўважаецца ў важных пераломных момантах. Мінулы год праходзіў пад знакам сеймавых гульняў, у якіх з вядомым скуткам гуляў вышэйпадпісаны. Сёлета чакаюць нас самаўрадавыя спаборніцтвы. І хто звязвае з імі нейкія планы, на ўсякі спосаб стараецца запамятацца сваім патэнцыяльным выбаршчыкам згодна прынцыпу: не важна, ці гавораць пра цябе добра ці дрэнна, важна, каб гаварылі, а яшчэ лепей — каб паказалі ў тэлебачанні!

Пад канец года вельмі высока самаўрадавую стаўку падбілі войт, управа і радныя гміны Крыпна, якія вырашылі свой „цяжкі" грамадскі абавязак кампенсаваць наступнымі ўзнагародамі: войт — 200 млн. старых злотых, скарбнік і сакратар — па 10 мільёнаў, а радныя — па 5! Справа набыла вядомасць, калі адна з радных паінфармавала грамадства і прэсу пра такі ход падзеяў. І пачаўся „гевалт"! Мяркую, што не было б яго, калі б у прызначаных узнагародах не было такіх дыспрапорцый. Ну, бо гляньне, ці страўнік раднага ў апошні дзень года ацэнены толькі на 500 новых злотых, а войта аж на 20 тысяч! Для дробнай крыпненскай шляхты быў гэта ўдар ніжэй пояса. З аднаго боку войт, які кажа, што гміна — гэта я, а з другога жыхары, якія патрабуюць адклікаць з пасады войта і радных, карыстаючыся грамадзянскімі правамі і вялікай злосцю.

Гэты выпадак паказвае, як гарачымі і важнымі будуць самаўрадавыя выбары ў 1998 годзе, гледзячы на іх толькі з перспектывы падзелу грошай. З та-

[працяг ☞ 10]

# Якім быў Канстанцін Каліноўскі

Кіраўнікі паўстання 1863-64 гадоў жорстка распраўляліся з тымі, што непрыхільна ставіліся да іхнага змагання. 24 мая 1863 года паўстанцкі ўрад выдаў дэкрэт, згодна з якім у кожным павеце павінен быць рэвалюцыйны трыбунал. Апрача дэкрэта абавязваў кодэкс пакаранняў і паводзін, які дазваляў караць смерцю тых, што супрацівляліся паўстанню. З кодэкса вынікае, што падставай да прыцягнення да адказнасці перад паўстанцкімі судамі маглі быць даносы.

Услед за дэкрэтам ужо 11 чэрвеня 1863 года выйшаў „Прыказ ад Ронду Польскага над усім Літоўскім і Беларускім краем", напісаны самім Каліноўскім (так лічаць А. Смірноў, М. Біч, Г. Кісялёў і іншыя гісторыкі-даследчыкі). У ім асноўным відам пакарання непаслухмяных паўстанцам паноў і сялян устанаўлівалася шыбеніца. Адзін з кіраўнікоў паўстання, паўстанцкі начальнік Вільні Уладзіслаў Малахоўскі выдаў нават інструкцыю, у якой дазвалялася караць смерцю без судовага разбору.

І Каліноўскі, і Малахоўскі хацелі тэрорам прымусіць насельніцтва беларускіх зямель падтрымаць паўстанне. Апрача згаданых дэкрэтаў Каліноўскі выдаў яшчэ дадатковы прыказ, у якім паведамляецца, што Польскі ўрад назначыў яго начальнікам паўстання і патрабуе ад яго сачыць за справядлівай свабодай і праўдай. У сувязі з гэтым загадаў ён насельніцтву падпарадкавацца Польскаму ўраду і пагразіў, што непаслухмяным пагражае агонь і шыбеніца.

За словамі пайшлі дзеянні. З інфармацыі гродзенскага губернатара ад 30 кастрычніка 1863 года вынікае, што паўстанцкія пагрозы не былі толькі пустымі заявамі. Напрыклад, атрад з 200 паўстанцаў павесіў у Боцьках на стаўбе адстаўнога радавога Міхаіла Дзмітрыева. У Сакольскім павеце ноччу з 11 на 12 красавіка ва ўрочышчы Лебядзінец паўстанцы забралі з сабой у лес шляхецкага сына, шаснаццацігадовага Фаму Яноўскага і невядомага па прозвішчу вучня гродзенскай гімназіі. Тры дні пазней каля Сакалды, пасля адыходу атрада, жыхары знайшлі павешаных у лесе двух мужыкоў і звольненага з войска Мікалая Патончыка. А ў Беластоцкім павеце паўстанцы забралі з вёскі Байкі адстаўнога радавога Францішка Кужаля і павесілі яго ў лесе, затым у вёсцы Мрочкі тое ж учынілі селяніну Якубу Вінкевічу. Хачу звярнуць увагу, што прыведзеныя выпадкі здарыліся паміж 11 і 16 красавіка 1863 года, калі на названай тэрыторыі дзейнічаў атрад Каліноўскага. Паўстанцы мардавалі таксама праваслаўных святароў на тэрыторыі сённяшняй Беласточчыны.

Чаму паўстанцы вешалі адстаўных салдат і сялян? Апрача дабравольцаў у паўстанцкіх атрадах мусілі служыць г.зв. „прызыўнікі". Звяртаючыся да „прызыўнікоў" Каліноўскі аўтарытарна заяўляў ім: „Вы да Ронду Польскага належыце", а ў адным са сваіх прыказаў сцвердзіў: „Хто проціў Ронду Польскага, таму агонь і шыбеніца". У прызваных у лясныя атрады былі дзве магчымасці: або служба ў паўстанцкіх баявых партыях, або шыбеніца за адмову служыць самазванаму Польскаму ўраду. У апошнім, сёмым, нумары „Мужыцкай праўды" Каліноўскі таксама паўтарыў словы, якія прымяняў на практыцы.

Ці публіцыстыка і дзейнасць Канстанціна Каліноўскага паўплывалі на станаўленне беларускай свядомасці? Нельга забываць, што нацыянальныя пытанні цесна звязаны з сацыяльнымі. Аналізуючы працэсы гэтага гістарычнага перыяду трэба зважаць на іх вастрыню, чаго не ўлічвалі кіраўнікі паўстання. Радыкалы рабілі ўсё, каб уцягнуць у паўстанне беларускіх сялян. На іх думку, перамога паўстання і адраджэнне Польшчы, уключна з этнічна няпольскімі землямі былога Вялікага княства Літоўскага, мела вызваліць сялян ад прыгнёту і даць ім зямлю і волю. Пазней сам Каліноўскі прызнаўся, што беларускі мужык паўстанне лічыў справай польскіх паноў, якім не давяраў.

На маю думку, польскі памешчык Канстанцін Вінцэнт Каліноўскі этнічна няпольскія землі лічыў польскімі і хацеў адарваць іх ад Расеі і далучыць да Польшчы. Ён не зважаў, што карэннымі жыхарамі былога Вялікага княства Літоўскага з'яўляліся беларусы і літоўцы, а палякі прыйшлі сюды як каланізатары. Беларускаму мужыку мова, культура, абраднасць расейскага народа былі бліжэйшымі, чым мова і культура польскіх паноў. Праваслаўе было таксама яму бліжэйшае, чым навязаная каталіцызмам унія. Малалікі атрад Каліноўскага (каля 200 асоб) не карыстаўся падтрымкай насельніцтва беларуска-польскага этнічнага пагранічча. Яго камандзір польскай гістарыяграфіяй прадстаўляецца, як адзін з кіраўнікоў паўстання, але, паводле мяне, гэта толькі „ватажка", які тэрарызаваў безабароннае праваслаўнае і каталіцкае насельніцтва ды не інспіраваў узброенай барацьбы з праціўнікам, а толькі адбіваўся ад расейскіх салдат, калі пападаўся ў засаду.

Можна сказаць, што Каліноўскі не змагаўся за незалежную Беларусь і свабоду беларусаў, але хацеў, каб беларусы былі падданымі польскіх паноў. Таму лічу, што асоба Каліноўскага не можа быць узорам беларускага патрыёта, тым больш, што ён не пераносіў праваслаўя. Можна яго таксама надзяліць мянушкай „вешателя", паколькі яшчэ перад Мураўёвым шырока прымяняў гэтую меру пакарання. Прапаную таксама ля абеліска ў гонар паўстанцаў 1863-64 гадоў у Сакалдзе паставіць крыж для ўшанавання нявінных ахвяр, якія пацярпелі ад атрада Каліноўскага.

**Канстанцін Масальскі**

# Паўстанцы, партызаны



Асоба, вядомая ў беларускай гістарыяграфіі і літаратуры як нехта „Кастусь" Каліноўскі, беларускі нацыянальны герой, у сапраўднасці не так адназначная. Сам я неаднойчы выступаў супраць гэтага міфа. Тым не менш нельга адзін міф заступаць іншым (бо не новым), як гэта робіць Канстанцін Масальскі.

Ніякая спрэчка немагчымая, пакуль бакі не дамовяцца адносна паняццяў, г.зн. што яны разумеюць пад гэтым ці іншым словам. Інакш — гавораць на розных мовах, хаця вонкава яна тая самая.

Безумоўна, Каліноўскі не змагаўся за незалежную Беларусь. Згодны я і з тым, што асноўным грэхам Каліноўскага было тое, што ён не пераносіў праваслаўя.

Усё ж такі дакараць Каліноўскага ў тым, быццам бы ён не зважаў, што карэннымі жыхарамі былога Вялікага княства Літоўскага былі беларусы і літоўцы — гэта ўжо замнога. З гэтакім апрыярычным сцвярджэннем проста немагчыма дыскутаваць. Дык да каго пісаў па-беларуску і па-літоўску ўсе тыя загады, вершы і запаветы? І кім была ягоная Марыська чарнабрыва — няўжо полькай?

К. Масальскі сам сябе заганяе ў сляпы завулак. Спярша піша, што Каліноўскі хацеў вызваліць беларускіх сялян ад прыгнёту і даць ім зямлю і волю, каб далей сцвердзіць без ніякай асновы, што той жа Каліноўскі хацеў, каб беларусы былі падданымі польскіх паноў. А ўсё таму, што К. Масальскі не разумее, да якой Польшчы Каліноўскі хацеў далучыць Літву і Беларусь.

К. Масальскі пад словам „Польшча" відавочна разумее этнічную Польшчу. Тым часам у часы Каліноўскага пад назвай „Польшча" падразумявалася Рэч Паспалітая. Каліноўскі фактычна змагаўся за тое, каб Вялікае княства належала Польшчы, але ж не этнічнай, толькі палітычнай — Рэчы Паспалітай. Ніхто не сумняваецца, што ва ўяўленні Каліноўскага Вялікае княства Літоўскае мелася быць аўтаномнай часткай гэтай Рэчы Паспалітай. Інакш у Варшаве не называлі б яго сепаратыстам.

Другое пытанне, разгляданае К. Масальскім, гэта метады, якія прымяняў у сваім змаганні „ватажка" і „вешацель" Каліноўскі.

Не буду аспрэчваць наяўнага факту, што паўстанцы прымянялі тэрор у адносінах да цывільнага насельніцтва. Такі тэрор прымяняе кожная ўлада ў час вайны. Ці ж тысячы, сотні тысяч і мільёны прызыўнікоў ішлі б так пакорліва на вайну, калі б не ўпэўненасць, што на вайне можна загінуць, але ж калі на яе не пойдуць, дык загінуць напэўна згодна з прыгаворам суда? Той, хто вядзе вайну, звычайна лічыць сваю справу высакароднай, а тых суайчыннікаў, якія яго не падтрымоўваюць — здраднікамі. А за здраду належыцца пакаранне — пятля, куля, ці, як у час студзеньскага паўстання — кінжал.

К. Масальскі лічыць паўстанцкую ўладу самазванай і з гледзішча яе легітымнасці мае рацыю. Усё ж такі пашана да легітымнай улады мае свае межы, інакш прыйдзем да абсурду, як у польскім анекдоце пра нямецкую акупацыю: „Чаму ў Пазнаньшчыне не было падполля?" — „Бо было забаронена".

Каліноўскі не быў жа ніякім каланізатарам. Змагаўся за свабоду сваёй роднай зямлі. Мы сёння можам інакш разумець гэтую свабоду, але гэта не мяняе факту, што каланізатарамі былі расейцы.

Ці да змагання за якую-небудзь свабоду можна прымушаць сваіх суайчыннікаў, якім лепш было б пасядзець на печы — пытанне адкрытае. Ва ўсіх школьных падручніках ва ўсіх краінах свету змагары за свабоду тых краін ушаноўваюцца як нацыянальныя героі, і ніхто не лічыць колькі ўдавіц і дзяцей плакала ў выніку іх вызвольнай дзейнасці. Праўда, заўжды знойдуцца адзінкі, якія запытаюцца, напрыклад, аб тым, хто даў генералу Бору-Камароўскаму права рызыкаваць жыццё цывільных жыхароў Варшавы, пра іх дамы і скарбы продкаў ужо не ўспамінаючы.

Вернемся да студзеньскага паўстання. На амой погляд была гэта палітычная авантура. Лепей было б, каб таго паўстання зусім не было. Усё ж такі, чытаючы дакоры К. Масальскага ў бок паўстанцаў, хочацца параўнаць іх з савецкімі партызанамі ў апошнюю вайну.

Праводзячы параўнанне, адзначу, што маю на ўвазе ідэальнага савецкага партызана, г. зн. карэннага беларуса, а не нейкага дэсантніка родам з-пад Валагды.

Студзеньскія паўстанцы змагаліся за далучэнне Беларусі да Рэчы Паспалітай, савецкія партызаны — за далучэнне Беларусі да Савецкага Саюза. Быццам бы адно і тое, але ў 1863 г. незалежная Беларусь не існавала нават як ідэя, падчас як у 1943 г. мінула чвэрць стагоддзя з абвяшчэння незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі. Такім чынам, з гледзішча беларускай свядомасці, савецкія партызаны былі з'явай рэгрэсіўнай.

Яшчэ горш для савецкіх партызан прадстаўляецца параўнанне з сацыяльнага гледзішча. Студзеньскае паўстанне мела вызваліць сялян ад прыгнёту і даць ім зямлю і волю. Савецкія партызаны змагаліся за тое, каб забраць сялянам зямлю і волю. Пасля іх перамогі некалькі дзесяцігоддзяў калгаснікі не мелі пашпартоў, а зямлі па сённяшні дзень ім не вярнулі.

Такім чынам, у параўнанні з савецкай партызаншчынай, студзеньская паўстаншчына была з'явай з гледзішча нацыянальнага і сацыяльнага вызвалення беларусаў прагрэсіўнай і была б такой нават калі б адбывалася ў 1943 годзе.

Затое, безумоўна, студзеньскія паўстанцы саступалі савецкім партызанам у інспіраванні ўзброенай барацьбы з праціўнікам, не без тэрарызавання безабароннага праваслаўнага і каталіцкага насельніцтва. Але гэта ўжо тэма на зусім іншае апавяданне.

**Алег Латышонак**

# Лукашэнка бярэ Маскву

**Гаворыць ВІКТАР ІВАШКЕВІЧ, з аргкамітэта „Хартыі'97".**



*— Адкуль з'явілася ініцыятыва „Хартыі"?*

— Сёння ў Беларусі партыі не могуць выпаўняць сваю функцыю, гэта значыць, дзейнічаць у палітыцы, бо нармальнай палітыкі ў нас няма. Кожная праява незалежнай ад уладаў ініцыятывы, нават бізнес, лічыцца дысідэнцтвам. „Хартыя '97" — гэта крок адчаю беларускіх журналістаў, якім надакучыла слухаць дыскусію палітыкаў, якая партыя лепшая. Яны хочуць пра гэтыя партыі пісаць, а не толькі аддаваць старонкі сваіх выданняў на бясконцыя спрэчкі іх лідэраў. Калі журналісты трапляюць, дык і так ніводная партыя не можа ім дапамагчы. І таму, каб не ствараць новых партыяў і не даваць падстаў для спораў, хто сапраўдны лідэр дэмакратаў, „Хартыя '97" не стварыла кіруючага органа.

*— Якія формы вашай дзейнасці?*

— Збіраем сродкі на дапамогу арыштаваным за ўдзел у палітычных акцыях, зняволеным журналістам. Разгортваем акцыю інфармавання міжнароднага грамадства пра парушэнні правоў чалавека ў Беларусі. Такія акцыі правялі мы ўжо ў Вільні і Варшаве. Адкрылі інфармацыйнае бюро ў Брусэлі. Дзякуючы „Хартыі" ўся незалежная прэса ўпершыню выступіла разам. „Хартыя" — гэта таран, які расчышчае поле партыям. Знікне дыктатура, знікне таксама патрэба ў існаванні „Хартыі '97".

*— Якую ролю ў замацоўванні дыктатуры ў Беларусі іграе Расея?*

— Парадокс тут такі, што не моцная Масква глытае слабую Беларусь, а агрэсіўны Лукашэнка бярэ Маскву. Яго перамога — асноўная пагроза незалежнасці Беларусі. Калі Масква ад яго адаб'ецца, гэта і будзе гарантыя нашай незалежнасці. Трэба сказаць ясна, не міжнародная блакада Беларусі піхае няшчаснага Лукашэнку ў Маскву. Ён тры гады тое і робіць, што туды ідзе, толькі чамусьці ніхто не хоча ў гэта паверыць.

**Запісаў Мікола ВАЎРАНЮК**

# Чаму развалiўся Савецкі Саюз?

Адказ на гэтае пытанне прабаваў даць мне былы сяржант Савецкай Арміі Пеця, цяпер ужо пенсіянер. За 30 гадоў службы Савецкаму Саюзу атрымлівае ён 1 мільён 400 тысяч беларускіх рублёў (33 долары) у месяц. Жыве ў Слоніме, дзе нарадзіўся і дзе яшчэ жыве яго маці. Пеця па нацыянальнасці лічыць сябе палякам, але адначасова не любіць сваіх суродзічаў за тое, што разбурылі сацыялістычны лагер. Не любіць Пазьняка, Шушкевіча і ўсіх астатніх апазіцыянераў за тое, што перашкаджаюць Аляксандру Лукашэнку навесці парадак у краіне. Не любіць Ельцына за тое, што прайграў вайну ў Чачні; асабліва за тое, што не паслаў авіяцыю, каб зраўняла вёскі і гарады гэтай краіны з зямлёю. Не любіць свае жонкі за тое, што жыве з іншым афіцэрам у яго ўласнай кватэры.

Паміж другой і трэцяй паўлітроўкай „Пшанічнай" Пеця пачаў расказ пра сваю службу ў арміі. Найдаўжэй служыў ён у Манголіі — 10 гадоў. Быў кватэрмайстрам батальёна.

— Знаеш колькі бочак салёнай гавядзіны я прадаў манголам? — спытаў мяне Пеця. — Сотні, можа тысячы, — адказаў, не чакаючы пакуль прыдумаю нейкую лічбу. — Зразумела не ўсё ішло для мяне і мае кампаніі на выпіўку. Дзялянку трэба было аддаць палкоўніку, палітычнаму афіцэру, шэфу КДБ. Яны, зразумела, сваіх грошай так не распускалі як мы — салдаты. Пасля вяртання з Манголіі купілялі яны сабе „Волгі" і будавалі двухпавярховыя дачы. Але добрыя былі людзі тады. Усё было і ўсім хапала. Калі загарэлася бюро, дзе былі ўсе дакументы інтэнданцтва нашага палка, сам маёр прыбег першы, але мне пацыху кажа: „Хлопцы, не спяшайцеся надта гасіць агонь". Разумны быў чалавек. Пасля яшчэ пару месяцаў мы маглі піць за кошт гэтага пажару.

— Як гэта так, Пеця, — пытаю яго, — кажаш, што ты любіў Савецкі Саюз, Савецкую Армію, яны табе даражэй усяго, а стаяў і спакойна прыглядаўся як гараць маёмасць гэтай арміі і гэтай дзяржавы? Хваліш палкоўнікаў і маёраў, якія, магчыма, падпалілі гэтыя дакументы?

— Я ж табе тлумачыў, — усхваляваным голасам адказвае Пеця, — што ў нас усё было і ўсім усяго хапала. Толькі як прыйшлі дэмакраты, раптам усё прапала. Тады мы жылі як паны. Правільна гаворыць наш прэзідэнт, што трэба аднавіць Савецкі Саюз. Я за тым. Толькі Лукашэнка можа мне даць пенсію. А што, можа маю чакаць долараў ад Пазьняка з Амерыкі?

— Пеця, — прабую дыскутаваць з сяржантам, — ты мне цэлы вечар расказваеш, як ты і твае калегі з зоркамі на пагонах доўгімі гадамі развальвалі Савецкі Саюз. Чаму тады хочаш яго нанава ствараць?

— Ты хіба п'яны, — яшчэ болш усхваляваным голасам пачынае крычаць Пеця. — Я табе, б...дзь, ужо пяты раз гавару, што Савецкі Саюз гэта была багатая краіна і ўсім усяго ставала. А ты гэтага ніяк не можаш зразумець?

Сапраўды, я быў ужо трошку выпіўшы.

**З сяржантам СА гутарыў Яўген МІРАНОВІЧ**

# Найлепшае індывідуальнае мысленне

— Мы не робім стаўку на даты ці звесткі з жыцця пісьменнікаў, але найвышэй ацэньваем індывідуальнае мысленне вучня, падмацаванае веданнем літаратуры, — сказаў прафесар Аляксандр Баршчэўскі, старшыня журы IV Алімпіяды беларускай мовы. — Бярэм пад увагу мову, але дыялектызмы лічым цнотай, а не заганай.

Раніцай 18 студзеня 1998 года ў будынку Гайнаўскага белліцэя сабраліся вучні і настаўнікі. Адбываліся там раённыя элімінацыі згаданай алімпіяды, у якой прынялі ўдзел 23 ліцэісты з Бельска-Падляшскага і 21 з Гайнаўкі. Здольнасці і веды вучняў ацэньваліся на падставе пісьмовых прац-тэстаў і вусных выказванняў.

У пісьмовых працах вучні адказвалі на пытанні па беларускай літаратуры і выконвалі практыкаванні па граматыцы беларускай мовы. Трэба было пахваліцца сваімі ведамі адносна жыцця і дзейнасці Францішка Скарыны, пераканаць камісію, што Яна Чачота, Яна Баршчэўскага, Вінцука Дунін-Марцінкевіча, Францішка Багушэвіча і Янку Лучыну можна залічыць да польска-беларускай літаратурнай школы і даказаць, што Янка Купала і Якуб Колас — класікі беларускай літаратуры. Ліцэісты мусілі таксама напісаць пра свайго любімага пісьменніка і адказаць ці ўспрымаюць настаўніка як прыяцеля, ці як начальніка. У перакладах, з польскай мовы на беларускую і наадварот, паяўляліся пісьменнікі беларуска-польскай культурнай супольнасці, а практыкаванне па граматыцы тычылася 27 ліпеня 1991 года, дня абвяшчэння незалежнасці Рэспублікі Беларусь. Як высветлілася ў час перапынку, найбольш улюбёнымі пісьменнікамі былі Янка Купала, Якуб Колас і Максім Багдановіч. Іх паэзію і прозу вучні дакладна аналізавалі на ўроках беларускай мовы. У некаторых ліцэістаў папулярнымі сталі „белавежцы". Напэўна рады быў Алесь Барскі, калі даведаўся, што вучні любяць яго паэзію. Паводле ліцэістаў, настаўнікі павінны быць прыяцелямі, бо толькі тады можна гаварыць аб эфектыўнай вучобе. Аднак, кожны настаўнік павінен карыстацца пашанай, а бываюць моманты, калі патрэбны і начальнік. Вучні сказалі, што пытанні іх задаволілі. У камісіі такога аптымізму ўжо не было. Звяртала яна ўвагу на граматычныя памылкі.

Вусныя адказы пачаліся пасля кароткага перапынку. Ліцэісты выцягвалі білеты з пытаннямі, якія тычыліся беларускай літаратуры, культуры і сучаснага жыцця беларусаў у Польшчы. Закрануты былі праблемы асіміляцыі нацыянальных меншасцей і інтэграцыі нацыяў, якія жывуць па-суседску. Вучні выказваліся аб сваім патрыятызме, аб значэнні рэлігіі ў асабістым жыцці і расказвалі пра сваю сям'ю. Адно пытанне датычыла характарыстыкі „Нівы".

Паколькі ўдзельнікаў змаганняў было многа, рэзультаты працы камісіі абвешчаны былі толькі пасля сямі гадзін вечара. 15 ліцэістаў перайшло да цэнтральных элімінацыяў. Перамажцамі сталі: **Ева Аксянцюк** (90 балаў), **Іаанна Масайла** (86,5 бала) і **Ігар Іванюк** (84 балы) — з Гайнаўкі і **Івона Хмур** (84 балы) — з Бельска-Падляшскага.

Фіналісты цэнтральнага этапу будуць звольнены з экзамену на атэстат сталасці па беларускай мове, а лаўрэатам многія вышэйшыя навучальныя ўстановы рыхтуюць спецыяльныя „ўзнагароды". У даведніку *Olimpiady przedmiotowe dla uczniów szkół średnich oraz uprawnienia laureatów i finalistów ubiegających się o przyjęcie na studia w latach 1997—1999* (Warszawa 1997 г.) можна прачытаць таксама і пра правы, якімі карыстаюцца лаўрэаты і фіналісты цэнтральных элімінацый Алімпіяды беларускай мовы. Вядома, найбольш прыхільны для нашай алімпіяды Варшаўскі універсітэт, які лаўрэатаў будзе прымаць без экзаменаў і дадатковай кваліфікацыі на беларускую, польскую, славянскую і класічную філалогіі, біялогію, хімію, філасофію, паліталогію, геаграфію, геалогію, бібліятэказнаўства, матэматыку і некаторыя міжфакультэтныя аддзяленні. Універсітэт у Беластоку рашыўся прымаць толькі на расейска-беларускую філалогію, а Люблінскі універсітэт — толькі на беларускую філалогію. Політэхнічныя інстытуты ў Радаме, Жэшаве і Вышэйшая школа педагогікі ў Ольштыне будуць таксама прымаць лаўрэатаў на розныя факультэты без экзаменаў і дадатковай кваліфікацыі. Мая інфармацыя абапіраецца на вышэйзгаданы даведнік. Ліцэісты-перамоўцы, зацікаўленыя вучобай у вышэйшых установах, павінны даведацца аб сваіх прывілеях асабіста на паасобных факультэтах.

Да наступнага этапу, які прадбачваецца ў пачатку красавіка, астаецца яшчэ крыху часу. Маючы на ўвазе такія льготы, можна адразу брацца за вучобу.

**Аляксей МАРОЗ**

# Афіцыйная пазіцыя

[1 ☞ працяг]

дзівастока. А Беларусь жа сёння — незалежная дзяржава, грамадзяне якой маюць свае пашпарты. Заўсёды былі мы добрымі суседзямі і надалей мы прымушаны жыць побач. Сёння паміж намі розніца такая: выходзім з аднаго панадворка ды ідзем у розныя бакі.

М. Крэчка дакараў беластоцкіх журналістаў, што пасля адкрыцця ў Беластоку Цэнтра распісаліся яны, быццам дыпламатаў сталі выклікаць „на дыванік" у Мінск. Консул растлумачыў, што нічога такога не адбылося — у Мінск паехаў ён, каб аформіць фінансавыя справы Беларускага музея ў Гайнаўцы. У сувязі з гэтай справай пабываў ён у Міністэрстве культуры і Таварыстве „Радзіма".

У сувязі з сітуацыяй на польска-беларускай мяжы, консул М. Крэчка заявіў, што ўваход Польшчы ў Еўрапейскі саюз і НАТО вымушаюць на ёй рабіць тое, што яна і робіць. Сітуацыя на мяжы адпавядае адносінам паміж міністэрствамі замежных спраў абедзвюх краін. На думку М. Крэчкі, закон аб іншаземцах нанёс большую страту Польшчы, чымсьці Беларусі.

Стварэнне цэнтра грамадзянскай адукацыі „Польшча — Беларусь" у Беластоку афіцыйныя колы ў Мінску ацэньваюць як не надта сяброўскі крок з боку Польшчы. М. Крэчка лічыць, што дзейнасць Цэнтра будзе слушнай, калі запрашацца на яго нарады будуць таксама і людзі, якія маюць рэальнае дачыненне да ўлады ў Беларусі.

**(ам)**

Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

# XII Сустрэчы „Зоркі”



*Памятны здымак удзельнікаў XII Сустрэч „Зоркі” з паэтэсай Надзеяй Артымовіч.*

XII Сустрэчы „Зоркі” праходзілі ў Нарве ў днях 2—8.02.1998 г. У мерапрыемстве прыняла ўдзел 51 асоба. Сярод іх былі вучні з Нарвы, Гарадка, Беластока, Ягуштова, Бельска-Падляшскага, Чыжоў, Белавежы, Гайнаўкі, Дубіч-Царкоўных.

Маладыя паклоннікі тэатру разам з тэатральнымі інструктарамі і настаўнікамі — Альжбетай Тамчук, Алінай Ваўранюк, Алегам Кабзаром, Дарафеем Фіёнікам, Тамарай Бялькевіч, Валянцінай Бабулевіч — стварылі альтэрнатыўную пастаноўку пад загалоўкам „Пачынаецца ўсё з любві”. У час Сустрэч працавала таксама журналісцкая група ў складзе: Міхась Сцепанюк, Жанэта Роля, Ірэна Кулік, Мажэна Жменька, Аля Асташэвіч, Бася Казімярук і ніжэйпадпісаная.

Журналісты запісалі сцэнарый, усе найцікавейшыя здарэнні і вечарыны, а таксама ўсе цікавінкі з Нарвы і наваколля.

Сёння друкуем у „Зорцы” першую частку сцэнарыя, аўтарамі якога з'яўляюцца Аліна Ваўранюк і Алег Кабзар.

Арганізатары сардэчна дзякуюць сваім спонсарам:

**Міністэрству культуры і мастацтва РП**, **Польскаму фонду дзяцей і моладзі**,

а таксама дырэктару ПШ н-р 3 у Бельску-Падляшскім **Васілю Ляшчынскаму**, дырэктару БДК **Сяргею Лукашуку**, дырэктару ПШ у Нарве **Аліне Асташэўскай**.

**Ганна КАНДРАЦЮК**

*Фота аўтара*

# Хрысціны ў Ягуштове

Ужо ад абеду мы рыхтаваліся да вечарыны. Спектакль „Хрысціны ў Ягуштове” неўзабаве будзе мець сваю прэм'еру. Мы рашылі паказаць толькі частку пастаноўкі.

На сцэне выступілі: Аня Бусловіч, Юстына Вышкоўская, Мажэна Дзмітрук, Ева Кардзюкевіч і ніжэйпадпісаная.

Нашы „Хрысціны” пабудаваны на аснове гістарычных крыніц, дзённіка Роха Сікорскага, які ў 1814 годзе пабываў на хрысцінах Івана Навіцкага ў нашай вёсцы. Самым важным матывам нашых „Хрысцін” з'яўляецца каша. Яе падрыхтоўваюць кума і суседзі.

На вечарыне мы спявалі не толькі хрысцінныя песні. Мы прыгадалі свае выступленні з „Бардаўскай восені” і мінулагодняга спектакля „Кліканне вясны”. Многа расказвалі пра сваё сяло і летнік у Супраслі.

Наш тэатр дзейнічае пры Праваслаўнай парафіі ў Ягуштове. Гурток вядзе Дарафей Фіёнік. Ад гэтага года тэатр дзейнічае ў рамках праграмы «Сустрэчы „Зоркі”».

**Аля АСТАШЭВІЧ (Ягуштова) і Ганна КАНДРАЦЮК**



*Боская Уля Тарасэвіч.*

# Батлейка

На другой вечарыне мелі выступіць акцёры з Бельскага дома культуры. Заняткі тэатральнай групы вядзе спадарыня Альжбета Тамчук.

На пачатку яна цікава расказала пра тэатральныя заняткі ў Бельску. Пазней пачалося выступленне. Акцёрская група паказалася ў няпоўным складзе. Выступілі: Чарак Хіліманюк, Жанэта Роля, Мажэна Жменька, Гражына Пашкоўская, Эвеліна Тымашэвіч і Наталька Бабулевіч, паказалі батлейку пад загалоўкам „Трон”. У прадстаўленні была гаворка пра нараджэнне Хрыста. Цар Ірад (Чарак) выслаў жаўнераў, каб забілі ўсіх хлопчыкаў. За гэта яго забрала Смерць. Пасля на трон уваходзілі смешныя людзі. Гэты былі па чарзе: Мацей, Баба, Цыган і Цыганка. Хаця акцёры ігралі па некалькі роляў, батлейка атрымалася вельмі прафесійнай.

Думаю, што тэатральныя заняткі ў Бельску былі вельмі цікавыя.

**Міхась СЦЕПАНЮК**



*Сцэнка: „Дзяцінства”. Выступілі (злева): Кася, Нінка, Наталька, Аляксандр.*

# Беларуская песня інакш

Як кожнага дня, таксама і ў пятніцу (6.02.98) адбылася вельмі цікавая вечарына. Вялікае ўражанне выклікала выступленне паклоннікаў старой беларускай песні.

Да нас прыехалі сябры Дарафея Фіёніка: Лідка Троханоўская, Кася Суліма, Грыша Зінкевіч. Яны разам з некаторымі ўдзельнікамі Сустрэч „Зоркі" — Алінай Вайранюк, Аняй Фіёнік, Мажэнай Дзмітрук і Дарафеем Фіёнікам заснавалі непаўторны гурт. У іх багатым рэпертуары можна знайсці песні запісаныя, між іншым, у час XI Сустрэч „Зоркі" і рэйда „Слядамі бежанства". У выніку мы маглі пачуць арыгінальныя песні з Кожына, Паўлаў, Мокрага, Плёсак, Студзіводаў, Дубяжына. Некалькі твораў паходзіла з Ягуштова і Тыневіч-Вялікіх. Мне асабліва падабаліся старыя калядкі „А ў пана караля", „Ой, ясна, красна", а таксама хрысціянскія песні — „Клёном-лістом", „Коноплі".

Шчыра сказаўшы, усе песні, якія спяваліся на гэтай вечарыне, былі незвычайныя, таямнічыя, паэтычныя і галасістыя. Мы маглі ўявіць, як людзі калісьці спявалі.

Хаця гурток толькі што стварэецца, спявае не горш, чым агульнавядомыя калектывы.

**Ірэна Кулік**



*Сцэнка: „Тадэуш і Талімена". Выступілі: Мажэна Жменька і Чарак Хіліманюк.*

# „Бельскі гостінэць"

Мілым сюрпрызам на аўторкавай вечарыне была прэзентацыя новага краязнаўча-культурнага часопіса „Бельскі гостінэць". Газета выдаецца ў рамках праграмы „Бельск-Падляшскі — сэрца пагранічча". Часопіс цікавы не толькі зместам. У ім друкуюцца артыкулы на беларускай і польскай мовах, а таксама на падляшскім дыялекце. Галоўным рэдактарам „Бельскага гостінця" з'яўляецца Дарафей Фіёнік, сакратаром Валянціна Бабулевіч, а журналістамі нашы сябры: Міхась Сцепанюк, Ірэна Кулік, Давід Рошчанка і Марк Хмур (тэхнічны рэдактар).

У часопісе шмат матэрыялу для моладзі і дарослых.

Удзельнікі Сустрэч „Зоркі" атрымалі першы нумар газеты. Застаецца толькі пажадаць рэдакцыі верных чытачоў і цікавых артыкулаў.

**Жанэта РОЛЯ**



*Сцэнка: „Рамеа і Джульета". Выступілі: Юстына Вышкоўская і Пятрусь Клімец.*



*Сцэнка: „Фаўст (Ноч Вальпургіі)". Выступілі: Жанэта Роля і Міхась Міранавіч.*

# Пачынаецца ўсё з любві

***(п'еса ў дзвюх дзеях)***

## Дзея І: Ева

**Аўтары мантажу:** Аліна Ваўранюк і Алег Кабзар. **Музыка:** А. Кабзар. **Выканаўцы:** Удзельнікі XII Сустрэч „Зоркі".

*(На сцэну выходзіць група дзяцей і спявае пад музыку баллады.)*

Даўным-даўно гэта было,
Не памятае ўжо ніхто,
Як добры Бог стварыў зямлю
І даў пачатак усяму.
З нічога ён стварыў ваду,
Звяроў і птушак чараду.
Стварыў ён ноч, стварыў і дзень
І райскі сад, і...

*(Спевакі заходзяць за заслону. На сцэне паяўляецца І асоба)*

**І асоба:**

Пад сіненькім небам,
у райскім садку,
Пад вядомым дрэвам,
недзе ў халадку,
Першай вясною, у першым маі,
Кожны знае як было:
Калі Адам жыў у раю,
Нуднавата жыццё ішло.
А што далей, кожны з вас
Сабе даспявае.
Словам — Еву маем!

*Першая асоба сыходзіць. На сцэне паяўляецца анёл. Дэкламуе ён фрагмент з Біблії.)*

**Анёл:**

І зараз сарвала з дрэва жыцця плод. Пабачыла тады нявеста, што добрае дрэва, каб з яго есці.

А што смачнае было і спакуснае было губам яе, каб пазнаць яго, узяла плод яго і ела, і дала мужу свайму, які з ёю быў і таксама еў.

*(Анёл знікае. Паяўляецца чорт)*

**Чорт:**

Бог даў ёй святасць,
Я грэх ёй даў
І з гэтай прычыны
мужчынскі род паў.
Святая і злая,
Палын або мёд,
Ласкае, кусае,
Анёлам бывае,
Чортам бывае
І кім яшчэ толькі,
А хто яе знае?
Бывае пустая або як без дна.
Канец і пачатак.
Жанчына. Ага!

*(Чорт сыходзіць, на сцэну ўваходзіць жанчына-мама)*

**Жанчына-мама** *(спявае калыханку)*:

Спі сыночак, мой малы,
Ходзіць ночка па зямлі,
Суцішае звонкі бор,
Запаляе свечкі зор.
Люлі спі, засні малы.
Люлечкі, люлі.
Вочы сінія ў лянка,
Як у мамчына сынка.
Зачыніў цяпер іх сон
І твае зачыніць ён.
Люлі, люлі, засні малы.
Люлечкі, люлі.

*(Жанчына-мама сыходзіць. На сцэну выбягае Жанчына-жонка)*

**Жанчына-жонка** *(крычыць)*:

І лю па твары!
— Што не так?
То ты мне будзеш ноч гуляць?
А я чакаю аж да рання,
Калі ты вернешся з спаткання.
Ты ж мне сказаў: праз тры хвіліны,
А я чакаю тры гадзіны.

*(На сцэне нікога няма. У акне паяўляецца дзяўчына са свечкай.)*

**Дзяўчына** *(спявае)*:

Ты прыходзь, пакуль не сплю,
Я дзвярэй не зашчаплю.
Толькі ўвойдзеш — прытулю,
Зацалую, залюблю.

*(У другім акне паказваецца другая дзяўчына з запаленай свечкай.)*

**Дзяўчына ІІ** *(спявае разам з дзяўчынай І)*:

Міма мамы прашмыгні,
Не чахні, не кашляні.
За сабой без валтузні
Дзверы ціха прычыні.

*(Далучаецца хор, які выходзіць на сцэну.)*

Боты зашчамі ў зубах,
Няньку ўбачыш, бо там шах
Апануе дзеўку жах,
Д'ябал стане ў вачах.
Не залезь пад дах, дзе брат
Галубоў трымае шмат.
Брат у нас таксама хват,
Біты скоціцца назад.
Тут прачнуцца сваякі:
Нянька, маці, брат, дзядзькі.
Замільгаюць кулакі,
Не палічыш сінякі.

**Салістка:**

Ты прыходзь, пакуль не сплю,
Я дзвярэй не зашчаплю.

**(працяг у наступным нумары „Зоркі")**

„Беларуская песня '98"

# Раённы агляд у Беластоку




*Спяваюць жанчына з Паўлаў.*

Калі чытаеце гэтыя словы, вядома ўжо, хто перамог у цэнтральным аглядзе беларускай песні, а не толькі ў **беластоцкім раённым**, пра які я пішу і які адбыўся 7 лютага ў будынку Беларускага таварыства. Нельга аднак, не аднатаваць гэты факт хаця б з увагі на тых нашых чытачоў, што не мелі магчымасці пабываць на ніводным з аглядаў.

Сёлета раённыя агляды адбыліся ў Кляшчэлях (Гайнаўшчына), Дуброве, Сямятычах, Беластоку і Бельску-Падляшскім. З іх найлепшыя выканаўцы тыпаваліся на цэнтральны агляд.

Што датычыць былога Беластоцкага павета, дык тут закараніліся глыбокія традыцыі беларускага песеннага майстэрства. Дастаткова сказаць пра старэйшы гарадоцкі хор, які спявае ўжо больш сарака гадоў, пра хор беластоцкага аддзела Беларускага таварыства, пра салістаў Любу Гаўрылюк з Беластока, Софію Цацэрка з Бабро́ўнікаў, Юрку Налівайку з Гарадка. Гэта яны тут былі пачынальнікамі, а трэба ўзяць пад увагу, што многія з іх спяваюць да сёння.

Не абазначае гэта, што склад спевакоў тут нязменны і стабільны. Разрасліся беластоцкія калектывы, цяпер іх аж чатыры: жаночая група, мужчынская група, мешаны хор і маладзёжны хор „Каласкі". Нядаўна (тры гады таму) пад кіраўніцтвам Любы Гаўрылюк узнік хор „Рэчанька" ў Козліках. Пры нарваўскім „Пронары" — таксама пару калектываў. Спяваюць народныя калектывы з Паўлаў (раней іх прыцягвала толькі сцэнічнае майстэрства), з Рыбалаў („Хлопцы-рыбалоўцы"), з Агароднічак („Журавінкі").

Але асабліва цешыць факт, што сярод выканаўцаў беларускай песні прыбыло моладзі. „Каласкі", калектывы пры „Пронары", эстрадныя калектывы „Ас", „Зубры", „998" даюць надзею на тое, што беларуская песня тут не толькі не загіне, але і далей будзе развівацца.

Што датычыцца самога раённага агляду, дык найлепшымі (падаю толькі тых, што занялі першыя месцы) аказаліся:

У катэгорыі **аўтэнтычнай фальклорнай песні** — салістка Ніна Цыванюк з Гарадка і жаночы калектыў з Паўлаў;

У катэгорыі **апрацаванай фальклорнай песні** — саліст Уладзімір Іванюк, дуэт Люба Гаўрылюк і Уладзімір Іванюк, а таксама хор „Расспяваны Гарадок" і мужчынская група БГКТ.

У катэгорыі **сучаснай песні** — салістка Ала Дубец, трыо з нарваўскага „Пронару", эстрадны калектыў „Ас", вакальны калектыў „Каласкі" і хор Беларускага таварыства пад упраўленнем Віктара Маланчыка, надзвычай высока ацэнены конкурснай камісіяй.

**Спецыяльную ўзнагароду** за ўласную творчасць (тэксты піша Мікалай Ігнацюк) атрымаў калектыў „Хлопцы-рыбалоўцы" пад кіраўніцтвам Янкі Бурноса.

Хаця здаралася, што некаторыя калектывы спявалі і не аўтэнтычныя народныя песні, а складалі свае тэксты на музыку вядомых песень, то больш было шэдэўраў беларускай музыкі, у якіх хаця — тыпова па-беларуску — было больш смутку і жалю („Край мой беларускі", „На полі лён цвіце"), то і радасць улівалася ў сэрца слухача так проста, без прычыны. Асабліва, калі спявалі жаночая група беластоцкага хору ды дуэт Люба Гаўрылюк і Уладзімір Іванюк.

**Ада Чачуга**

*Фота Сяргея Грынявіцкага*

PS. Яшчэ адзін сімптом новага: агляд вяла прафесійна 21-гадовая Эва, дачка Валянціны Ласкевіч, студэнтка Гродзенскага універсітэта (абедзве на здымку).



# Бельшчына на сцэне

Бельскіх элімінацый конкурсу „Беларуская песня '98" хапіла б на тры асобныя канцэрты. Так выканаўцаў, як і публікі, якой у нядзелю 8 лютага не ўмяшчала немалая ж зала Бельскага дома культуры. І гэта тады, калі за ўваход трэба было заплаціць, хай сабе невялікія грошы, але ўсё ж.

Выступілі добра вядомыя калектывы з Бельска: „Маланка", „Васілёчкі", „Дзявочыя ноткі" і з Бельшчыны: „Красуні" з Краснага Сяла, „Родына" з Дубяжына, „Бярозкі" з Кнарыд, „Арляне" з Орлі. І зусім новыя: мужчынскі секстэт з Бельска, які падрыхтаваў Ірыней Лаўрашук (першае месца ў катэгорыі апрацаванага фальклору, нароўні з „Маланкай") і жаночы калектыў з Малінніка (перамога ў катэгорыі жывога фальклору).

Галасістыя Маліннікі сталі адкрыццём агляду. Першае месца ўзяў не толькі ўвесь калектыў, але і індывідуальна Вера Нічыпарук. Спявалі яны старыя прыгожыя падляшскія песні, з якіх найбольш уражвалі рэкруцкія.

Бурнымі воплескамі сустрэла публіка Аляксандра Раманюка з Дубяжына, які доўгія гады чамусьці не паказваўся на беларускіх аглядах. А сёлета за песню „А ў нас у Навасёлках" атрымаў другое месца (апрацаваны фальклор).

Бельскай „Маланкі" нікому з чытачоў „Нівы" прадстаўляць не трэба. Нікога таксама не здзіўляе, што наогул не сыходзіць яна са сцэны з узнагародай ніжэй першага месца. Так было і сёлета. Нават цяжка вызначыць, якая песня прагучала лепш, ці жартоўная „Свінні ў рэпе", ці вальс-раманс „Нашы сустрэчы".

Пад вядомай шыльдай „Дзявочыя ноткі" з Бельскага беларускага ліцэя выступілі зусім новыя, маладзенькія дзяўчаты. І аказаліся добрымі пераемніцамі крыху старэйшых сябровак. Асабліва Юліта Такарэўская і Аня Хадакоўская, якія выступілі таксама як салісткі. І то як выступілі: Юліта перамагла, а Аня падзяліла другое месца са Святланай Кобус.

Памаладзелі таксама „Васілёчкі". Іх выступленне з элементамі руху, з акампанементам многіх драўляных палачак-стукалачак і бразготак вельмі спадабалася гледачам. Як і цэлы канцэрт.

**М. В.**

*Фота Анджэя Кшыўца*




*Вера Нічыпарук з Маліннік.*

# Прыбліжэнне ўсходняга хрысціянства

Айцец Рыгор Сасна з Рыбалаў прызвычаіў ужо нас да таго, што рэгулярна паяўляюцца яго чарговыя кніжкі. Таму я і не здзівіўся занадта, калі ў пачатку лютага г.г. атрымаў поштай ягоную найнавейшую бібліяграфію. Гэта трэцяя частка „Уступнай бібліяграфіі ўсходняга хрысціянства. Польскамоўныя выданні сучаснага перыяду"*.

Том налічвае 2 175 пазіцый (ад 8 567 да 10 741 н-ра). У ім найчасцей называюцца артыкулы апублікаваныя ў апошніх гадах, хаця сярод іх знойдзем і такія, якія не трапілі ў раней выдадзеныя тамы. Пры многіх пазіцыях даюцца кароткія анатацыі, паясняючыя змест зафіксаванага матэрыялу. Для „таўсцейшых" выданняў (кніжкі, перыядычныя выданні і г.д.) дабаўляецца спісак іх зместу, што мне асабліва падабаецца.

Згаданы том папярэджваюць уводзіны аўтарства Антона Мірановіча, традыцыйна ўжо на польскай, англійскай і беларускай мовах. У канцы змешчаны паказальнікі — імянны і геаграфічны. На вокладках прыводзяцца фрагменты дзесяці рэцэнзій на кніжкі а. Рыгора, выдадзеныя ў 1994-97 гадах.

Усе, што займаюцца або будуць займацца ўсходнім хрысціянствам, атрымалі яшчэ адзін каштоўны дапаможнік, які дазволіць ім больш свабодна і больш глыбока пранікнуць у гэтую тэму.

Вялікае дзякуй а. Рыгору Сасну за ягоную тытанічную працу!

**Пётр Байко**

* Ks. Grzegorz Sosna, *Wstępna bibliografia chrześcijaństwa wschodniego. Druki polskojęzyczne okresu współczesnego*, część III, Ryboły 1998, ss. XX + 235.

# Экуменічны сімпозіум

22 студзеня г.г. у Інстытуце хрысціянскай культуры ў Ольштыне адбыўся пад кіраўніцтвам дырэктара гэтага інстытута кс. праф. Мар'яна Бажышкоўскага XVI Экуменічны сімпозіум. На гэтым сімпозіуме меў выступіць праф. Антон Мірановіч з дакладам н.т. „Манастырскае жыццё ў Праваслаўнай царкве на тэрыторыі Рэчы Паспалітай". Аднак у сувязі з хваробаю мітрапаліта Васілія прафесар не мог прыехаць, а толькі даслаў свой даклад, які быў на семінары зачытаны д-р Зояй Ярашэвіч-Перасляўцаў. Упершыню ксяндзы пачулі такую дакладную інфармацыю пра наша праваслаўе, пра нашы цэрквы, пра Супрасль і Грабарку. А вечарам у касцёле Хрыста Адкупіцеля чалавека адбылася імша, якая заінаўгуравала альштынскую Актаву малітваў за адзінства хрысціян.

**Андрэй Гаўрылюк**

**Міра Лукша**

## Усямоцны

ці ж не раздражняе
Аўтар богу роўны
што ведае больш
чым Герой ягонага рамана

бо што за Герой
калі падуладны ён
нахабнаму пяру
якое кажа рабіць тое
што хоча Аўтар
каб ён думаў адчуваў
і хваліў свайго стваральніка:
во, разумнік, як ён ведае
мяне і ўсе правілы
існавання свету
і ўвесь Божы план
адносна майго збаўлення
і збаўлення Чытача!

# Зімнія спаборніцтвы і гульні

Асяродак спорту і рэкрэацыі (АСіР) у Гайнаўцы арганізаваў у час зімовых канікулаў спартыўныя спаборніцтвы і гульні для дзяцей і моладзі з розных школ Гайнаўшчыны. Усіх ахвотных прыняць удзел у спаборніцтвах прыцягнула багатая праграма.

Першыя матчы па баскетболу пачаліся 26 студзеня г.г., а ўсе яны адбываліся ў спартыўнай зале Падставовай школы н-р 1. Спаборнічалі тут 23 каманды. Прыйшлі не толькі вучні з Гайнаўкі, але і школьнікі з Бельска-Падляшскага, Чаромхі, Нарвы і Дубіч-Царкоўных. У гульні ўключыліся і дарослыя. Баскетбалісты з прадпрыемства „Фурнэль" ужо не першы раз сапернічалі з моладдзю за кубак дырэктара АСіР. Хаця дзявочых каманд было мала, іх гульні былі не меней цікавымі, а ўзровень ігры прыстойны.

Футбольны турнір за кубак бурмістра Гайнаўкі прыцягнуў больш чым чатырыста ўдзельнікаў. Прыняло ў ім удзел 55 каманд з Гайнаўшчыны і Бельска-Падляшскага. Найчасцей былі гэта вучні падставовых школ. Паколькі футбольныя і баскетбольныя матчы адбываліся ў адной спартыўнай зале, ігры пачыналіся з дзевяці раніцы, а канчаліся пасля васьмі вечара. Спаборніцтвы прыцягнулі гайнаўскіх балельшчыкаў футбола і баскетбола. Вядома, былі гэта школьнікі, якія ў вольны ад занятккаў час прыходзілі паглядзець, а калі трэба было, дык пакрычаць або пасвістаць, каб памагчы сваім улюбёнцам. Прастаяўшы ў спартыўнай зале ад раніцы да вечара, стомленыя вярталіся дамоў. Радасць была вялікая, калі перамаглі сябры.

Падвядзенне рэзультатаў спаборніцтваў адбылося 4 лютага г.г. у згаданай зале. Уручаць пераможцам кубкі і ўзнагароды прыйшоў старшыня Гарадской рады Якуб Астапчук. На першых месцах у футбольных змаганнях, залежна ад узросту ўдзельнікаў, апынуліся: „Барусія", „Інтэр" і „Д'яблы". Найлепшымі баскетбалісткамі сталі вучаніцы з II Агульнаадукацыйнага ліцэя з беларускай мовай навучання ў Гайнаўцы, а найлепшымі баскетбалістамі сталі хлопцы са „Спіда" (вучні сярэдніх школ і студэнты).

Не забылі ў Гайнаўцы і аб прыхільніках шашак. У Гарадской бібліятэцы адбыўся ў першым тыдні канікулаў чэмпіянат горада па шашках, у якім прыняло ўдзел 20 маладых асоб. Найлепшай у катэгорыі класаў III-VI аказалася Барбара Клімук, а ў катэгорыі кл. VII-VIII — Адам Шпарло. У паасобных школах адбываліся дадатковыя сустрэчы. Маладыя гулялі ў настольны тэніс, валейбол, баскетбол і працавалі з камп'ютэрамі.

Аднак, спаборніцтвы ў зачыненых памяшканнях, гэта не тое, што гульні пад адкрытым небам. Наймалодшыя вучні чакалі не толькі канікулаў, але і снегу. Калі на панадворках паявіўся белы пух, гульням не было канца. Старэйшыя вучні выцягнулі лыжы і канькі. На пляцоўцы АСіР зрабілі вялікі каток і арганізаваліся там зімовыя спартыўныя спаборніцтвы і гульні. Колькі ж было смеху і радасці!

Многія гайнаўскія вучні адпачывалі ў сваіх бабуляў па вёсках. Гульні з вясковымі сябрамі таксама былі цікавымі, а размовы са старэйшымі вяскоўцамі вельмі павучальнымі. Цяжка было вяртацца ў школу, але веды не маглі чакаць, пакуль адыдзе зіма.

**Аляксей Мароз**

# За піва плаці сам!

Мая мара — каб мяне чыталі. На тое ж і пішу. Хай мяне чытач мо і не кахае, але хай ягоны зрок хоць праслізгнецца на маім прозвішчы, калі лістае газету, і азвуцца ў ягонай душы нейкія пачуцці. Ну, хай мяне і не церпіць, бо мо я каго і зачапіў за жывое. Можа, ад мяне, а не ад „Сэрцайка" пачне чытаць „Ніву"?.. О-о-о, то было б!

Кожны аўтар хацеў бы, каб яго чытач чытаў — знаёміўся з іхнімі думкамі, меркаваннямі і прапановамі, сказаў: „О, цікава! І я так думаю!". Або наадварот: „І не падумаў бы, што хтосьці можа так думаць!" І каб заахвоціць да выказванняў іншых. Каб чалавек узяўся за пяро і напісаў у „Ніву". А каб узяцца за пяро, трэба і імпульс, і ахвота, а часам і вялікая адвага ці нават адчай. І той хто гэта зробіць, перастае быць *асобай прыватнай.* Нават пра ягоны сямейны стан могуць напісаць у адгалосцы, як гэта зрабіў Юрка пра Міхала. І аўтар, і той, пра каго пішуць, знаёмы цяпер у шырэйшым крузе. Такі ніўскі знаёмы. Калі пераглянеш старонкі гадавікоў „Нівы" ад самога пачатку, то сэрца часам аж зойдзецца: тут у нас якая вялікая радня! І як сярод сваякоў — ёсць і сваркі, і лаянкі, хтось часам з'язджае з глузду, іншы раз кагосьці велічаюць за нішто, па-сваяцку, другі раз рукі не падасць кум куму...

Найбольш небяспечна пісаку з сатырычным ухілам. Бо не можа жыць без каверзы. А каму падабаюцца жарты з самога сябе? Сцёпу Абуха нават жонка перастала цярпець, хоць талерантная як ніхто на Беласточчыне. Міхась Андрасюк добра акапаўся за сваімі каменнымі і штучна-мармуровымі глыбамі, але і так у некаторых барах бачаць яго не вельмі ахвотна, хоць за піва плаціць сам, нягледзячы на дармовую рэкламу. Адам Маньяк так закамуфляваўся, што нават па ганарар заходзіць да нашае бухгалтаркі на прыцемках, або і ўвогуле ад тае жменькі манет адмаўляецца, бо саромеціца браць за сваю раскошу. І мне нястрашна, бо ў маім узросце можна баяцца толькі аднае Пані, знаёмай мне з розных франтоў.

Адзін мой знаёмы дапытваўся, колькі плацяць у „Ніве". Кажа, пісаніна работа чыстая, цяпер нават пальцаў атрамантам напляміш, адкуль камп'ютэр за цябе піша... Узяў я ды сказаў, а нават, каюся, прызнаўся, што падглядзеў, колькі мае рэдактар. Той дзядзька паглядзеў на мяне, думаў, пэўна, што „яйца" раблю з яго, а пасля прамовіў: „Не шануюць сябе людзі, што так мала бяруць за работу. А, можа, яны да нічога больш нyздатныя, толькі што з галавы пісаць умеюць".

Ну, у галаву перш за ўсё трэба ўзяць, каб „напісаць з яе". Дзядзька К., праўда, „Ніву" чытае, але ўсё жыццё прымяркоўваў цану газеты ці кніжкі да піва, як яго жонка — да яек. А выгадаваць свінку таксама не работа, відна, бо і яе ніхто не цэніць. То і найгоршы пісака з вёскі, ці той карэспандэнт, ці рэдактар. Хай арэ ад цямна да цямна, то ягонаму прадукту грош цана. Так і ацэньваюць адзін аднаго нашы людзі.

**Вандал Арлянскі**

# Канікулы ў Старыне

Зімнія канікулы ўжо за намі. Надвор'е спрыяла адпачнку: трымаў мароз і выпала дастаткова снегу. Большасць дзяцей, аднак, праводзіла канікулы дома, асабліва тыя з бяднейшых сем'яў.

Абяздоленымі дзяцьмі здаўна цікавіцца Цэнтр міласэрнасці „Элеас" пры Беластоцка-Гданьскай епархіі, які ў днях 25-31 студзеня г.г. арганізаваў у Адпачынковым цэнтры ў Старыне лагер для выхаванцаў дзіцячых дамоў з Супраслі, Беластока і Краснага. У прыгожа распаложаным цэнтры адпачывала група з 18 дзяцей ва ўзросце ад 6 да 14 гадоў. Дзяцьмі апекаваліся маладыя людзі, звязаныя з „Элеасам".

Лагер пачаў сваю дзейнасць з набажэнства ва Уздвіжанскай царкве ў Вэрстоку. Настаяцель прыхода а. Іосіф Вайцюк звярнуўся да прыхаджан з заклікам дапамагчы дзецям. Людзі адгукнуліся і дапамагалі, чым толькі маглі.

Лагер у Старыне — восьмае мерапрыемства гэтага тыпу, ладжанае „Элеасам" для пакрыўджаных лёсам дзяцей. Раней такія ж лагеры адбываліся ў Гарадку, Каралёвым Мосце, Драгічыне, Міхалове (тройчы) і Дубічах-Царкоўных. Большасць дзяцей ведалі сваіх калег з папярэдніх сустрэч і таму на лагеры панавала амаль сямейная атмасфера.

А вось што пра свае ўражанні ад пабыўкі ў Старыне расказалі ўдзельнікі лагера:

**Іаланта Матэйчук** з Беластока (9 гадоў): — Прыгожа тут, апекуны такія мілыя. Гулялі мы ў падходы, хадзілі з салдатамі паглядзець граніцу. Падабаюцца мне конкурсы. Я ўдзельнічала ва ўсіх лагерах.

**Аня Матэйчук** з Беластока (10 гадоў): — Усё мне тут падабаецца. Добра нас кормяць, рашаем загадкі і рэбусы. Люблю хадзіць на дыскатэкі і вогнішчы.

**Анэта Назарко** з Супраслі (13 гадоў): — Вельмі добра мне тут, мілыя апекуны. Наведалі мы вёскі Старына і Гурны Груд. Я ўдзельнічала ў большасці гэтых лагераў. Разам са мною прыехаў малодшы брат.

**Кася Павэльская** з Беластока (11 гадоў): — Падабаецца мне тут. Ходзім на прагулкі, катаемся на лыжах. Былі мы і ў царкве ў Вэрстоку.

**Міраслаў Дамброўскі** з Супраслі (12 гадоў): — Я цікаўлюся спортам, люблю катацца на лыжах і гуляць у падходы. Прыемна было на кулігу. Гэта ўжо мой шосты лагер.

**Марлена Мічэйка** з Супраслі (11 гадоў): — Люблю гуляць пад адкрытым небам. Часта катаюся на каруселі і гушкалках, езджу на лыжах і санках. Цешуся, што з такімі мілымі апекунамі праводжу зімнія канікулы.

Радасць дзяцей — самая найлепшая ўзнагарода для арганізатараў лагера і апекуноў згуртаваных на ім выхаванцаў. Прыемна адзначыць факт, што ёсць у нас, на Беласточчыне, добразычлівыя людзі, якія памятаюць пра пакрыўджаных лёсам выхаванцаў дзіцячых дамоў.

**Славамір Кулік**

# „Навучыўся радавацца чужой радасці..."

## *Лісты Міхася Забэйды-Суміцкага да Максіма Танка*

*(працяг; пачатак у 46 н-ры за 1997 год)*

3.06.1974 г.

„...Хутка закончу дарогу сваю
праз перавалы, адхоны, абрывы".

Дарагі Максіме! Ведаючы, як Ты перагружаны, больш пра Цябе думаю, чым пішу. Аднак лічу патрэбным падзякаваць Табе за Твае добрыя словы, за прапанову прыслаць лекі і асабліва за Твой верш, які мне вельмі спадабаўся.

Лекаў тут маем вельмі многа, і я шмат іх спалыкаў і палыкаю, але „даходзіць бензін". Дактары кажуць, што маю зменшаную сардэчную рэзэрву і папоўніць гэту рэзэрву ў маім веку немагчыма. А калі сэрца працуе кепска, тады „на беднага Макара ўсе шышкі валяцца" і на чалавека лезуць розныя хваробы. Часамі трудна ўтрымаць у руцэ кубак чаю. Хаджу толькі памалу і то няпэўным крокам. Атрафіруюцца месцы, якія звязваюць косці... Але яшчэ магу дайсці ў сталоўку без кійка, магу купіць троху патрэбнае ежы, прыбраць у пакойчыку-працоўні і, галоўнае, магу яшчэ даваць людзям радасць сваімі песнямі... У маі спяваў некалькі разоў з поспехам. „...Такі я паранены ўвесь і ... шчаслівы".

Вельмі шкадую, што не пабачыў Нарач і наогул Радзіму, за межамі якой прайшло амаль усё маё жыццё, пачынаючы з першае сусветнае вайны, што выкінула мяне яшчэ малым хлопцам з роднага кутка.

Тут, у Чэхаславакіі, вельмі прыгожыя і добра дагледжаныя дзеці. А я, калі памятаеш, жыву ля Рыгровага парка, дзе дзяцей вельмі шмат. І вось у вольную хвіліну іду ў парк палюбавацца дзяцьмі, паглядзець у іх чыстыя, нявінныя вочы, адазвацца на іх шчырую ўсмешку, адвесці душу і ад усяго сэрца пажадаць ім поўнага шчасця, каб яны ніколі не пазналі праклятай вайны...

З Радзімай мяне звязваюць добрыя пісьменнікі, творы якіх чытаю ў „Полымі", ды пісьмы суайчыннікаў і сяброў. Часта да мяне звяртаюцца з-за мяжы, каб прыслаў свае плёткі з беларускімі песнямі. Ці маю выпаўняць іх жаданні? Як Ты думаеш?

У „Полымі", за красавік, з вялікім зацікаўленнем прачытаў артыкул Ніла Гілевіча „Паэтыка беларускіх загадак". Радуюся кожнаму дасягненню на Радзіме.

У нас канчаецца фестываль „Пражская вясна". Шмат першакласных артыстаў з розных краін выступала на фестывалі. Была гэтым разам і народная артыстка Беларусі Святлана Данілюк. Мае вельмі прыгожы голас. На канцэрце падышоў да мяне нейкі старэйшы пан і запытаўся, ці яна сапраўды народная артыстка Беларусі. Яна ж, кажа, нічагусенькі беларускага не заспявала. Калі б не вашы канцэрты і плёткі, мы і не ведалі б, што братні беларускі народ мае такія прыгожыя песні... На гэта пытанне я нічога не мог адказаць, бо і сам нічога не ведаю. Перасылаў з ёю прывітанні Радзіме.

Між іншым, у Тваёй біяграфіі я чытаў, што ў Лукішках (здаецца) Ты спаткаўся з Іванам Малецам. Іван Малец быў маім таварышам, калі я вучыўся ў Маладзечанскай семінарыі. Магчыма, гэта быў ён? Потым я з ім не спаткаўся.

Пара канчаць: спатрабавалася мая сардэчная рэзэрва. Будзь здароў, дарагі дружа. Прывітанні сям'і з супольным знаёмым. Буду чакаць Тваіх вершаў у „Полымі". Моцна Цябе абдымаю.

Твой М. Забэйда

*(працяг будзе)*

# Гміна — гэта я

[3 ☞ працяг]

го што ведаю, на сённяшні дзень зарплата войтаў і бурмістраў у нашым рэгіёне, гэта мінімум 20—30 млн. старых злотых. Радныя за кожнае пасяджэнне атрымоўваюць, бы паслы, неападатканыя дыеты. Канец кадэнцыі — час справаздачы перад выбаршчыкамі. У нашай беларускай стыхійнасці, як на далоні відаць тых войтаў і самаўраднікаў, якія за чатыры гады зрабілі шмат чаго добрага жыхарам сваіх гмін і тых, для якіх думка пра нашы гаспадарчыя, асветныя ці культурныя справы зводзілася часта толькі да спекуляцыяў за чаркай на летнім вогнішчы.

Можам наглядаць і за рознымі стылямі працы войтаў ды іншых самаўрадавых чыноўнікаў. Адной з заўважальных катэгорыяў — малыя Людовікі ды іхнія двары, для якіх гміны — толькі яны, а на астатніх можна крычаць і інтрыгаваць супраць іх. Іхнія немаральныя паводзіны абсалютна не паддаюцца ніякай крытыцы. Здаецца, грамадскае запатрабаванне і новы выбарчы закон адсунуць такіх людзей ад улады. Другі тып — гэта „самотны яздок", — быццам бы асоба з амерыканскага культавага фільма. Шмат энергіі укладае ён у сваю працу. Усё хоча даглянуць. У акружаючым наваколлі заўважае больш ворагаў, чымсьці прыхільнікаў, што няўхільна вядзе да канфліктаў. Калі выбары войтаў ці бурмістраў будуць непасрэднымі, „самотныя ездакі" са сваёй зацятасцю маюць вялікі шанц на жыццёвую самарэалізацыю. Урэшце, трэцяя група войтаў, якія кіруюцца ў сваёй працы двума лозунгамі: „Мая хата з краю, я нічога не знаю" і „Тише едешь, дальше будешь". Іх дзеянні разлічаны на некалькі кадэнцыяў і... бясспечнае атрыманне пенсіі. Найчасцей за ўсё дзякуюць, не сварацца ні з ваяводскімі ўладамі, ні сваімі жыхарамі ці раднымі. Цярпліва чакаюць усялякіх датацыяў ці субвенцыяў. Калі ідзе пра разбудову інфраструктуры ў гміне, усё робяць памаленьку, са спазненнем. Пусцеючая ўсходняя сцяна са сваім чарапашным тэмпам жыцця ў натуральны спосаб прыдае гмінным уладам спецыфічную вонкавую сімволіку, у якой наглядаюцца мноюэлементы праваслаўнага разумення часу са сцэнамі быццам з фільмаў Фэліні. А войты і самаўраднікі вядуць свае караблі, быццам выбіраюцца ў доўгі рэйс. Толькі замест вальсаў і тангаў паўсюдна грыміць дыска-пола.

І на канец маленькая заўвага будучым войтам, бурмістрам, самаўраднікам: **гміна — гэта мы.**

Мы — народжаны на сваёй зямлі пад Саколкай, Бельскам, Гайнаўкай, Мельнікам, Мілейчычамі. Маем права вас усіх выбіраць, але і адклікаць. Маем права патрабаваць ад вас працы на карысць нашай малой айчыны. Маем права патрабаваць пашаны для нашай нацыянальнай культуры і роднай мовы. Маем права патрабаваць успамагання яе. Маем права патрабаваць годнай будучыні для нашых дзяцей і ўнукаў ды годнай старасці для нашых дзядоў і бацькоў. А ваш абавязак, шаноўныя будучыя ўлады, стараццa гэта забяспечыць. На карысць усім.

**Яўген Вапа**

PS. У выніку пратэстаў жыхароў гміны Крыпна радныя адмовіліся ад сваіх узнагарод, а войт сваю прэмію прызначыў на патрэбы мясцовай асветы.

**Я. В.**

*Тэкст дасланы на конкурс на пасаду журналіста.*

# Алёша — вясёлы музыкант

**У Міклашах Арлянскай гміны жыве Алёша РЫБАЧУК — 50-гадовы кавалер, музыкант-самавучка, які ў маладосці многа ўвагі адводзіў спорту. Гуляў ён у футбол, займаўся цяжкай атлетыкай, а яго трэнерам быў пакойны Аляксандр Война з Беластока, ураджэнец Орлі.**



Алёша працаваў на бетонным і кафляным заводах, на цагельні, а ў дзевяностых — качагарам у кацельні бельскай бурсы. Калі сялян пачалі вызваляць з работы, вярнуўся ён на бацькаўскую васьмігектарную гаспадарку. Аднак найбольшай яго страсцю да сённяшняга дня засталася музыка, асабліва ігра на акардэоне і спеў, якімі шчыра дзеліцца ён з людзьмі.

— Навучыўся я іграць на акардэоне, можна сказаць, сам па сабе, хаця коратка практыкаваўся я і ў іншых музыкантаў, — успамінае Алёша. — Ужо ў школьныя гады, па дарозе ў школу, „іграў" я на ранцы ды падспеўваў. Акардэон — гэта была мая самая вялікая мара. У навуцы я не быў старанны, бо ў галаве была толькі музыка. Навуку спыніў я ў 1958 годзе ў пятым класе. Пасля, ужо ў трыццацігадовым узросце, закончыў я падставовую школу на вечаровых курсах.

Пазней з аднавяскоўцамі Васілём Лемешам і Сярожам Боберам хадзілі мы вучыцца іграць у Віктара Назарэвіча з Орлі і ад яго мае бацькі купілі мне акардэон. На ім я навучыўся іграць тры мелодыі і пасля месяца навукі пайшоў працягваць вучобу ў музыканта Цуднага з Бельска. Даязджаў я паўгода і па 3-4 гадзіны ў дзень вучыўся і па нотах, і па слыху.

Публічна пачаў я іграць упершыню перад аднасяльчанамі, якія ў святочныя дні сядзелі на лавачках перад хатамі. Затым сталі запрашаць мяне на вяселлі, вечарыны, забавы. Іграў я з гітарнымі калетывамі, калі ім быў патрэбны акардэаніст, і пры нагодзе навучыўся іграць на гітары. Потым пяць гадоў іграў я на гітары з Лёнем і Валодзем з Маліннік. Затым выступаў я як акардэаніст з арлянскімі гітарыстамі і коратка з Янкам Жменькам, з калектывам „Нэвэмі". У васьмідзесятых гадах выступаў я з Міхалам Мінцэвічам *(аўтарам артыкула — рэд.)* у гайнаўскім калетыве „Аэраліт".

Музыка дае людзям радасць, спадарожнічае добрай забаве. На вясковых вечарынах здараліся бойкі і скандалы. У такой сітуацыі музыкантам загадвалі голасна іграць і адразу на зале станавілася спакойна. Здараліся таксама розныя нечаканыя выпадкі. Напрыклад, на вяселлі ў Грабаўцы, што ў Дубіцкай гміне, падчас выезду да шлюбу, калі я іграў марш, коні спалохаліся і аглобля ўлезла ў мех і пашкодзіла пазычаны мною інструмент. Давялося шукаць новага акардэона, бо ж вяселля без музыкі не бывае...

На іншым вяселлі, у Новым Бродзе, амаль не страціў я свой заробак. Падчас перапівання, а гэта адбываецца пасля поўначы, музыканты стаяць каля маладой пары і падыгрываюць кожнаму, хто віншуе маладажонаў. У гэты момант заўважыў я дзяўчыну, якой я вельмі спадабаўся. На яе знак пакінуў я акардэон каля печкі і выйшаў за ёю і прапаў на даўжэйшую хвіліну. Вясельны бацька ўсё гэта заўважыў і зменшыў ганарар усяму калектыву. Сябры пашкадавалі мяне і ганарар падзялілі пароўну.

Ад колішніх веселляў і забаваў засталіся толькі ўспаміны. Сёння памянялася мода і музыка, а вясковыя святліцы пустуюць, разбураюцца. Калісь у кожнай вёсцы ладзіліся забавы. Маладыя танцавалі, а старэйшыя глядзелі і пляткарылі. Цяпер іграю толькі на меншых мерапрыемствах: на хрысцінах, наваселлях, пры вогнішчах.

У мінулым было цікавей і весялей. А сёння выйдзеш на вуліцу, пастаіш і з нічым вяртаешся ў хату. Гавораць, што з музыкі хлеб невялікі, але і без музыкі няма жыцця. От, часам выйду перад дом, сыдуцца людзі ды іграю...

**Запісаў Міхал Мінцэвіч**

*Фота аўтара*

# Толькі еднасці не хапае

— Ой, божачкі, што зараз дзееца, — з лямантам увалілася ў маю хату Жэнька. — Гэта ж Бузэк забраў палову грошай, прызначаных Цімашэвічам на рамонт манастыра ў Супраслі. Хто дазволіў яму на гэта?

— А галасаваць ты хадзіла на паслоў у Сейм?

— А пры чым тут галасаванне? — адказала яна пытаннем на пытанне. — Не хадзіла, дзе ж мне старой да галасавання?

— Вось бачыш, — адазваўся я, — не галасавала ты, не пайшла мая жонка ды і шмат іншых і таму ёсць тое, што ёсць. Цімашэвіч прайграў пасаду прэм'ера і цяпер нічога добрага спадзявацца нам, праваслаўным, няма чаго. Мы ў правых заўжды будзем кацапамі, бальшавікамі і камухамі.

Зрэшты, паміж нашымі беларусамі зашмат толку няма, асабліва ў высокапастаўленых асоб. Хаця б прафесар А. Баршчэўскі, які публічна пакінуў сваіх сяброках і сяброў ды выступіў з арганізацыі. Сур'ёзны канфлікт узнік таксама паміж былым галоўным рэдактарам „Нівы" і галоўным „Przeglądu Prawosławnego". Дамаўляцца з Уніяй працы таксама не было вялікай патрэбы. Нашы правадыры надта фанабэрыстымі сталі і не ведаюць, да якой групоўкі ім прыліпнуць. Хітрэйшыя арганізавалі ўласныя партыі, якія нічога карыснага не дадуць беларускаму асяроддзю ў РП. Яны толькі разбураюць еднасць паміж беларусамі. БГКТ — беларуская арганізацыя з традыцыямі. Яна глыбока ўрасла ў беларускае асяроддзе так у гарадах, як і на правінцыі і трэсца ў бок таму, хто адважыцца яе разбурыць. Усялякія крытычныя заўвагі ў адрас БГКТ, па-мойму, ёсць беспадстаўныя, лішнія, пазбаўлены ўсялякага сэнсу.

А затым пазбіраймася да кучы, будзе нам лягчэй.

**Валянцін Семянюк**

# Чыжоўскія інвестыцыі

Вёска Чыжы — як адна з першых у Гайнаўскім раёне — пабудавала тыповую звалку. Цяпер у кожнай большай мясцовасці Чыжоўскай гміны таксама маюць свае месцы для смецця.

Гмінныя ўлады асноўную ўвагу адводзяць пабудове водаправодаў. Напрыклад, у мінулым годзе закончылі пабудову водаправода ў вёсках Камень і Буякоўшчына. Варта адзначыць, што да 1994 года толькі пяць вёсак мелі ваду з крана, а ўжо пад канец 1997 года па-за водаправоднай сеткай асталіся толькі чатыры сялэцкія вёскі: Ляды, Лянева, Падрэчаны і Ракавічы. Дакументацыя для пабудовы водапраавода ў Падрэчанах ужо гатовая.

У мінулым годзе закончылі аднаўленне дарогі з Кленікаў у Слівава і да завяршэння асталіся толькі так званыя касметычныя работы на гравейцы з Лянева ў Падрэчаны.

Сёлета будуюць адміністрацыйны будынак Гміннай управы разам з глядзельнай залай для тамашняга Гміннага асяродка культуры.

**(яц)**

# Кубак за кефір

Акруговы малочны кааператыў (ОСМ) з Саколкі на VIII Харчовым кірмашы ў Вроцлаве атрымаў ва ўзнагароду кубак міністра сельскай гаспадаркі за кефір. Сакольская фірма з'яўляецца адным з найбольшых у Беластоцкім ваяводстве малочных прадпрыемстваў. Купляе яна малако ад 2 800 пастаўшчыкоў. Летам ОСМ перапрацоўвае каля 70 тысяч літраў сырадою ў суткі.

У Саколцы прадукуюць м.інш. масла, ёгурт, кефір, сыркі (напрыклад: „Татарскі"), а таксама смакавіты тварог.

**(яц)**

# Водаправодная сетка завершана

— Зараз у Арлянскай гміне ўсе вёскі маюць ваду з крана. Апошнімі сёламі, у якія паплыла чыстая як крышталь вада, былі Рудуты і Рыгораўцы. Цяпер ваду з водапраавода мае 100 працэнтаў мясцовасцей у гміне, — сказаў не без задавальнення войт Міхал Іванчук. — А яшчэ ў 1990 годзе такую выгоду мелі толькі жыхары Орлі, Кашалёў і Крывятычаў.

Іншыя важныя інвестыцыі ў Арлянскай гміне — гэта дарогі. У мінулым годзе паклалі асфальт на 8 кіламетрах дарог, між іншым, на адрэзках: Вулька-Выганоўская—Рыгораўцы, Вулька-Выганоўская—Маскоўцы ды Малінікі—Шарні, а таксама ў вёсках Пашкоўшчына, Паўлінава і Спічкі.

**(яц)**

# Парнасік

## Капіталізм

Грамадскі строй капіталізм —
За яго, чалавеча, не маліось.
У ім таксама жулікаў не бракуе,
Што на вачах пакрыўдзяць і абдуюць.
Богам у капіталізме — грошы,
І хто іх мае, той чалавек харошы.
А хто бедны і пакрыўджаны —
Часта яго дні палічаны.
Ён чалавек другога гатунку —
Без паратунку!
Пры такой сістэме
Голас рашучы маюць бізнесмены.
Уся маёмасць у руках мільянераў
І знаем іхнія манеры.
Трэба быць паслухмяным як раб,
Горш як негр ці араб.
Польшча перайшла ў гэтую сістэму
І мае па вушы праблемаў.
Каб стаць капіталістам,
Гэта не станцаваць твіста;
Трэба аднекуль пацягнуць левыя грошы
І згарнуць іх у свой кошык.
Інакш: хітра ўкрасці і пусціць у ход,
І скора будзеш пачэсны ты і твой род.
Уладальнік мае бязмежную ўладу
І не слухае тваіх просьбаў і парадаў.
Калі яму нешта не пасуе:
Твае погляды ці паводзіны — не даруе.
З работы выганіць ласкава,
Калі ты і герой; непатрэбная яму твая слава.
І перад нікім не пажалішся
І не параішся.
Бо ён адзіны гаспадар ласкавы,
Сваёй радні і сабе шукае гонару і славы.
І там, дзе ўрад — жулікаў багата,
У кожнага прасторная і дарагая хата.
Мелюць языкамі аж нашы вушы пухнуць;
Лепш спакойна адпачыць і іх з экрана „здзьмухнуць".
Камунізм прапаў праз жулікаў падобных,
Царыкаў і дыктатараў „свабодных".
А ці калі-небудзь капіталізм пойдзе да ўсіх чарцей?
Не ведаю, бо я не прарок і не чарадзей.

**Мікалай Панфілюк**

## Што далей

Што далей рабіць,
Як тут мне пісаць?..
Мо трэ перастаць
Улады крытыкаваць?
Яны ніц не робяць,
Каб было лепш жыць,
Толькі будуць далей
У галовах муціць!
Будуць нам казаць
Ды ў голаў убіваць,
Што цераз камуну
Цяжка пражываць.
Бо яны не скажуць,
Што самі зрабілі,
Як нашу дзяржаву
Над прорву зманілі,
А ў нашай дзяржаве
Цяжка цяпер жыць, —
Хочуць біду гэту
На камуну зваліць!
Бо самім не можна
Да таго прызнацца,
Бо на цэлым свеце
Будуць з іх смяяцца!
Тое яны знаюць,
Што так вырабляюць,
І нашу дзяржаву
Ў пропасць заганяюць!

**Мікалай Лук'янюк**

# ВЕР — НЕ ВЕР

Астроне! Мне прысніўся цікавы сон, і я вырашыў табе пра яго напісаць, хаця раблю гэта наогул даволі рэдка.

Сніцца мне, што плывем мы з жонкай і ўнучкай на караблі. Навокал цудоўныя берагі, пакрытыя паўднёвай расліннасцю, вада — то цёмна-сіняя, то зялёная, то зусім, як аквамарын. Вельмі прыгожа!

Раптам пачынаюць паяўляцца скалы, іх штораз больш, і я пачынаю крыху баяцца. Карабель, аднак, упэўнена лавіруе паміж скаламі, а ўнучка знайшла добрае месца, з якога ўсё відаць.

Што ўсё гэта можа прадвяшчаць?

**Сцяпан**

Мне, Астроне, прыснілася, што ў мяне белыя, коратка стрыжаныя валасы. Чаму? Я ж маю валасы цёмнага колеру... Ага, усведамляю сабе, што я ж іх пафарбавала на светлы колер.

А пасля я купляла абутак. Былі гэта туфлі — новыя, чорнага колеру, прыгожыя. Мне здавалася, што яны крыху на мяне зацесныя, але калі я іх прымерыла, былі зусім добрыя, дык я іх купіла. Баюся гэтага чорнага колеру. А ты, Астроне, што скажаш?

**Люся**

Сцяпан! Плысці на караблі — абазначае сямейнае шчасце, тым больш, што берагі былі зялёныя, прыгожыя, ды і вада характарызавалася нязвыклым хараством. Нейкія перашкоды паявяцца, аднак, у тваім сямейным жыцці, але ты іх пераможаш, аб чым сведчыць тое, што ваш карабель умела лавіраваў паміж скаламі, ды і ўнучка ж знайшла добрае месца.

Люся! Твой першы сон абазначае, што ў цябе будзе, бадай, нейкі прыбытак, аб чым сведчаць прыгожыя, светлыя валасы. Другі сон прадвяшчае падарожжа і чорны колер тут не мае значэння.

**Астрон**

# Наша пошта

**Міхась Куптэль, Сопат:** Адгалоску на артыкул Міхала Мінцэвіча „Страхоўка ў наручніках" („Ніва" № 2 ад 11 студзеня 1998 г.) і заяву Эжы Харкевіча (№ 4 ад 25 студзеня 1998 г.), згодна папярэдняй заяве, змешчанай пры рэпліцы аўтара ў 6 нумары нашага тыднёвіка ад 8 лютага г.г., не надрукуем.

**Wł. Lewczuk:** Anonimów nie drukujemy. Bo i po co?

**Іаланта Грыгарук, Гайнаўка:** Радуемся вашаму вяртанню ў гурт ніўскіх карэспандэнтаў. Добра, што пасля пяцігадовага перапынку вы зноў надумаліся ўзяцца за пяро. Апавяданне „Дубова доля" надрукуем. Мы таксама гатовы ўзнавіць цыкл „Думкі дзеда Антона", але няма патрэбы яшчэ раз перадрукоўваць тое, што друкавалася ў лістападзе 1992 года, тым больш што кожны фельетон састаўляе завершаную тэматычна цэласнасць.

**Віталь Луба**

# Статыстыка і рэчаіснасць

Як паказвае статыстыка, наша краіна займае другое месца ў свеце (за Францыяй) па спажыванні лекаў на аднаго чалавека. Ці сапраўды палякі — хворы народ?

Апошнім часам падвяло мяне крыху здароўе, занямог. Жонка паклікала мясцовага лекара з чыгуначнай амбулаторыі. Запісаў ён мне лекі. Выкупіў я іх зразу і пачаў прымяняць. Нічога не палепшылася. Прыйшлося, хоч не хоч, пакласціся ў гайнаўскую бальніцу.

За тры тыдні майго там прабывання я спажыў некалькі соцень таблетак (каля дзесяці, а мо і больш, у дзень). А хвароба не адпускала! Лекары памянялі мне лекі, а я іх глытаў і набіваў лічыльнік статыстыцы.

Са шпіталя выходзіў я не ў найлепшым здароўі. Пачаў лечыцца ў мясцовай чыгуначнай амбулаторыі. І памагло. Значыцца, „мой" лекар паставіў адпаведны дыягназ.

Бачыце, каб нашы лекары змаглі ставіць хвораму зразу трапны дыягназ, наша статыстыка намнога паменшылася б, а ў нашых шкапчыках не залежваліся б непрыдатныя лекі.

Іншая справа. Як паказвае тая статыстыка, спажываем больш імпартных лякарстваў, чым айчынных. Таму польская фармацэўтыка штораз павышае цэны на лекі. Вось, як і зараз. А ці сапраўды яна нерэнтабельная? Хто яе там ведае. Адно пэўнае, калі лякарства спатрэбіцца, нічога не гавары, чалавеча, і купляй тое, што лекар запісаў. Тапельнік брытвы хапаецца, кажа прымаўка. Так і мы робім. А рэзультат тут вядомы: паможа — не паможа, а статыстыка паказвае адно: спажылі.

**Уладзімір Сідарук**

# Крыжаванка




**Гарызантальна:** 4. рака на паўднёвым усходзе Сербіі, 7. горад на захадзе Сіцыліі, 8. усходні платан, 9. члены пратэстанцкай секты заснаванай у Англіі Джонам Фоксам у палове XVII ст. (мн. лік), 10. японская мафія, 14. выконвае трукі, 18. горад у Маравіі, 19. участак зямлі для вырошчвання агародніны, 20. радыёпрыёмнік і прайгравальнік разам, 21. адсутнасць чысціні і гучнасці ў голасе.

**Вертыкальна:** 1. устаноўленыя формы паводзін у грамадстве, 2. гара ў Гімалаях, 8470 м., 3. згіб, да якога п'яname мора, 4. вынік гульні без выйгрышу, 5. правы прыток Амазонкі, 6. адлюстраванне тварам унутранага стану чалавека, 11. домік на прыгарадскім зямельным участку, 12. травяністая расліна сямейства грэчкавых, 13. казацкі камандзір, 15. камандная гульня авальным мячом, 16. цвёрды папяровы лісток з выяваю напр. пікавай дамы, 17. лёгкае пакрывала мусульманскіх жанчын, якое закрывае галаву і твар.

**(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 1 нумара**

**Гарызантальна:** Пінанг (Пенанг), тунісцы, Сахара, Вольскі, найміт, Ранерс, Векслер, бульба, ярмолка, баскак.

**Вертыкальна:** Ставер, анілін, асэсар, Пысін, Няхай, Нурмі, аскома, Малала, тормаз, акула, Ельск, Сваяк.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Аляксандру Дабчынскаму і Лукашу Пацэвічу** з Беластока.

# Найлепшыя шахматысты

У Гмінным цэнтры культуры, спорту і адпачынку ў Міхалове адбыўся шахматны турнір на кубак войта тамашняй гміны Уладзіміра Кананчука. Карыстаўся ён вялікім зацікаўленнем сярод удзельнікаў і балельшчыкаў. Да спаборніцтва прыступіла 18 шахматыстаў з Міхалоўскай і Гарадоцкай гмін.

Першае месца і прыз здабыў Адам Слівоўскі з Навасёлак, другое і трэцяе месца — Аляксандр (бацька) і Аляксандр (сын) Анціпюкі з Міхалова.

**(яц)**

Ніва

„Niwa", ul. Zamenhofa 27, 15-959 Białystok, skr. poczt. 149, tel./fax 435 022.

Druk: „ORTHDRUK", ul. Składowa 9, Białystok.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Выдае:**

Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".

Старшыня Праграмнай рады: Яўген Міранові́ч.

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (галоўны рэдактар), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк (сакратар рэдакцыі), Аляксей Мароз, Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Prenumerata:**

1. Termin wpłat na prenumeratę na II kwartał 1998 r. upływa 5 marca 1998 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały „Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na II kwartał 1998 r. wynosi 13 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Krajowej Dystrybucji Prasy, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa. Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-16551-2700-1-06.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 2 zł, a kwartalnie — 26 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa", Białystok, ul. Zamenhofa 27, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 11101154-207917-2700-1-65.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

Фрашкі пра нашых

## Служба — дружба

Нарадзіў дзіцё Сцяпан.
Выхаваў падманам:
Служба, грошы — гэта зман,
А ў хаце — *адмяна.*
Пагаворым пра дзяцей,
Пра вясковых, пра ліцэй
(Пра чужых, вядома,
Не звязаных з домам)
І пашлем вучыцца ў свет
У Мінск, ва універсітэт
Шчырага тутэйшага,
Што сабакаў вешае
На ўсё беларускае.
Хай арэхі лускае,
Вучыцца *фахова,*
Як роднае *ховаць.*

## Андроны

Андрон у сто тон
Розум мае, як звон.
Больш чым ён мае слон,
Ды не з тых ён старон.
Шле балта-славянскі паклон
Ён самай белай з варон.
... Выбарчы мегафон.
Выбарчы марафон.

**Вандал АРЛЯНСКІ**

# Ніўка



*Мал. Алега КАРПОВІЧА*

# „Даўціпы" Андрэя Гаўрылюка

Два мужчыны перад радзільным домам:

— Не магу ўжо вытрымаць гэтага чакання!

— І я таксама! То ж пакуль мы тут будзем чакаць, могуць пазакрываць усе рэстараны...

* * *

Гутарка ў кафэ:

— Прашу газіраваную ваду.

— З сокам ці без?

— З сокам.

— З якім сокам?

— З апельсінавым.

— Апельсінавага няма.

— Дык з малінавым.

— Малінавага няма.

— А які ёсць?

— Ніякага няма.

— Ну дык дайце ваду без соку.

— А без якога соку?

* * *

Падчас спектакля ён з захапленнем глядзіць на актрысу, іграючую галоўную ролю:

— Якая яна апетытная... — шэпча жонцы.

— Магчыма, але вячэраць і так будзеш дома.

* * *

Парачка ў рэстаране. Ён разглядае меню, у якім асталіся толькі дарагія стравы. Урэшце з чароўнаю ўсмешкай прапануе ёй:

— Ну і што з'ямо, таўстушка?

* * *

Спажывец да афіцыянткі:

— Гэтая талерка брудная! Што гэта мае значыць?!

— Не ведаю. Я тут працую афіцыянткай а не гадалкай.

* * *

Дзядзька пляменніку:

— Маеш ужо трыццаць гадоў і ўсё яшчэ халасцяком ходзіш...

— Бо ўсе прадстаўленыя мною нарачоныя не падабаліся маці.

— Дык трэба было знайсці падобную на яе.

— Знайшоў!

— І што?

— Не спадабалася бацьку.

# На здароўе!

Зараз буду расказваць праўду, якой бы горкай яна не была...

Учора ў бальніцу трапіў. Нагу падвярнуў... Лепш бы я галаву сабе звярнуў адразу!

Уяўляеце: ляжу ў прыёмным пакоі, чакаю, калі ўрач прыйдзе, і раптам падыходзяць замест урача два санітары.

— Гэты, ці не? — кажа маленькі доўгаму і паказвае на мяне.

— Зараз паглядзім, — кажа доўгі, — хіба, — кажа, — іх тут усіх, падлюг, запамятаеш!

Дастаў з кішэні кучу папер, пакорпаўся ў іх і кажа:

— Гэты! Вось, — кажа, — напісана: смерць наступіла ў $13^{00}$.

Я кажу здзіўлена:

— У-у каго наступіла?

Маленькі кажа:

— А ў цябе наогул не пытаюць! Зусім, — кажа, — абнаглелі! У мінулым годзе, — кажа, — вось так адзін стары загадчыка напалохаў. Той толькі сабе наліў, а дзядок — хоп! і — выпіў. І за закускай цягнецца.

Другі кажа:

— Так, сапраўды, бываюць у жыцці загадкавыя з'явы! Але я на ўсякі выпадак яшчэ раз праверу.

Праверыў і кажа:

— Не, усё правільна, вось напісана: Анісімава Аграфена Пятроўна... 1883 года нараджэння.

— Ідыёты! — зароў я. — Я скардзіцца буду!

— У мінулым годзе, — кажа маленькі, — вось так адна бабулька скаргу напісала. Хутка ўжо адказ, напэўна прыйдзе...

— Разбяруцца, — кажа доўгі. — Зараз наконт гэтага строга!

Тут маленькі кажа задумліва:

— Аднак, — кажа, — незразумелая бабулька трапілася: у штанах, з вусамі і лысіна вунь блішчыць!..

Доўгі кажа:

— Ну і што, можа, яна панкуе!?

— У мінулым годзе, — кажа маленькі, — рокераў прывезлі, дык замест рокера матацыкл пахавалі. Металістаў, — кажа, — лёгка пераблытаць...

— Урача! Урача мне паклічце! — зароў я.

Тут адчыняюцца дзверы і заходзіць урач: халат накрухмалены, позірк строгі.

На грудзях стэтаскоп, на галаве — пыжыкавая шапка, каб не спёрлі.

— Чаму, — пытаецца, — хворы так дзіка раве? Зноў лякарствы ў лік будучага квартала даеце, каб план перавыканаць?

— У мінулым годзе, — кажа маленькі, — мы ім лякарствы на кухні ў кацёл заклалі, каб усім без крыўды! А ў гэтым, раз вы сварыцеся, вырашылі лякарствы зусім не даваць!

— Да таго ж, гэта не хворы, — кажа доўгі, — а вось... — Пакорпаўся ў сваіх паперах і кажа здзіўлена:

— Аказваецца, у мяне дзве паперкі зліпліся і гэта атрымліваецца не Аграфена XIX стагоддзя нараджэння, а ... апарат — штучная нырка!

Урач сціснуў вусны і кажа зразумела:

— Гэта, — кажа, — напэўна, японцы рабілі, нашы так не могуць!

— Нашы мяне рабілі! Нашы! — закрычаў я.

— Во, дае! — узрадаваўся маленькі.

— Значыць, навучыліся! Ну, узялі, ці што?! — скамандаваў ён свайму доўгаму напарніку і схапіў мяне за нагу.

— Ой, — закрычаў я, тузануўся і ... выправіў вывіх. Ускочыў і бегчы адтуль стрымгалоў. Ды так, што па дарозе ў слуп урэзаўся, і цяпер ужо і сам не зразумею: ці гэта сапраўды са мной было, ці то мне здалося!

**Віктар КАКЛЮШКІН**

*З рускай пераклаў*
*Валеры БАБЕЙ*

# Сардэчныя ТАЙНЫ

Ой, Сэрцайка, Сэрцайка! Дальбог злосць бярэ, цябе паслухаўшы. Распуста табе ў галаве дый годзе. Ці час на гэта? Людзі стогнуць, што грошай мала, бо ўсё дарагое, і за абы-якую работу хапаюцца. Ну, зразумей жа ты, падрабіць крыху хочуць — дзяцей жа карміць трэба, га?

А, стомлены, прыйдзе чалавек дахаты, на ложак грымнецца, абы ногі крыху выцягнуць, абы адпачыць штоленька. А ў цябе ложак толькі з адным асацыюецца: з гулянкай! Не зважаеш на нішто, адно дурніцы табе ў галаве. Усё зубы скаліш без прычыны. Весела табе? Бо мне — ніколечкі.

Не паспею ў хату ўвайсці, жонка на парозе лаянкай сустракае. Усё ёй мала, разумееш. Не хапіла на справункі, бо мізэрную суму ёй выдзяліў. А што я, лісцяў ёй з дрэва назрываю! Ну, і красці, дальбог, не пайду.

Вось так наслухаюся я, дык не тое што, каб нешта, але нават і есці не хочацца, хоць чалавек галодны, як воўк. Усё калом у горле становіцца. А ўжо як грымнуся на ложак, дык і сплю адразу.

А маю і чорт не бярэ. Адкуль толькі сілы столькі ў яе... З працы прыйшоўшы, натупаецца па хаце, то варыць, то прыбірае, то нешта мые. Дзяцей спаць паложыць — і да мяне прыйдзе, прытуліцца. Дальбог, на ўсё гатова! Але ж я ўжо сплю. Ну, не буду маніць, часамі ёй удаецца мяне разбудзіць. І добра бывае, кажу табе. Але гэта, бадай, таму толькі, што праз сон не здаю сабе справы, што гэта яна. Бо так то... пасля ўсяго таго, што я пачуў...

А я ж так стараюся ўсё для гэтай хаты, для дзяцей. Іншы дык хвастом махне, як толькі праца на будове скончыцца, ды гайда дахаты. А я ж яшчэ нейкі заробак шукаю. І ўявi сабе, што ён ёсць. Столяр, а асабліва такі, як я, заўсёды патрэбны. І за што мне тую лаянку слухаць?!

Мала, што чалавек стаміўся, дык і жонка яшчэ дабівае, дальбог, усё абрыдзіла. Можа ты, Сэрцайка, хоць раз напішаш нешта з сэнсам, каб і стомленаму жыццём чалавеку на душы радасней стала.

**ПАЎЛО**

Даражэнькі Паўлік! Яшчэ не ўсё страчана. Гэта магу табе сказаць ужо на ўступе.

За што ж ты мяне лаеш, скажы, саколіку?! То ж я і стараюся памагаць людзям, якія ў патрэбе. А ты якраз апынуўся ў такім становішчы, што і цябе трэба ратаваць. Добра, што напісаў, бо магло б быць з табой кепска.

Дражніць цябе наша забава. Кажаш, што Сэрцайка сораму не мае, бо веселосць навокал рассявае. А ты чаму такі пануры? Ці ад гэтага жыццё лягчэйшае стане?! Дурны ты, Паўлік. Найлепш кахацца якраз у такія часы — бо гэта прынамсі нічога не каштуе (вядома, калі ёсць з кім). А радасці колькі!

Гэта — раз. А два — сексуальныя ўцехі могуць дапамагчы табе пратрываць у нялёгкія часы і знівеляваць той брак матэрыяльнай раскошы, якая марыцца тваёй жонцы як апагей шчасця.

А ты „Жэрміналь" чытаў, га? Быў такі аўтар, Заля Эміль, француз адзін. Пра бедных людзей пісаў, цяжка працуючых — пра гарнякоў. Дык што яны пасля працы рабілі? А, праўду кажучы, толькі „тым" і займаліся. Няма ў іх гэта рабілі, дзеткі радзіліся, падрасталі, праз незавешаныя вокны падглядалі. А за што было тыя заслонкі купіць, калі ратоў прыбывала... Але яны былі шчаслівыя.

Ты ж падумай сам: колькі людзей бразгаціць мільёнамі, а як што да чаго — дык з бабай не выходзіць. Ну, не дасць рады бабу задаволіць, і ўсё тут. На гэта, братка ты мой, трэба паперы мець, ды не абы-якія!

Думаеш, ён бы сваю манету той бабе пад ногі не кінуў, каб толькі ўдалося ёй нешта выкрасаць з яго... Усё б аддаў мо, каб адчуць па-сапраўднаму жаночае цяпло, даведацца, што такое цялесная раскоша. А вам усё грошы. Ты працуеш, яна цябе лае — сімбіёз дасканалы.

Мо яна злосная на цябе не за грошы, а за тое якраз, што ты ўсё спіш і разбудзіць цябе цяжка. Але, дальбог, кажу табе, калі ты нават праз сон можаш задаволіць сябе і бабу, дык не варта складаць зброю, павер.

Мяркую, што твой маркотны настрой выкліканы больш духоўнай, пачуццёвай пусткай, чым недахопам грошай. Кажу табе, лепш менш пад'есці, але ў ложку (прабач, ізноў той ложак) сабе не шкадаваць. Пастарайся менш спаць, а класціся разам з жонкай. Нават непамытыя талеркі лепш пакінуць на заўтра.

**СЭРЦАЙКА**